# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№24 (2530)

12 чэрвеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.


***ВЫСТАВА ЭДУАРДА АСТАФ'ЕВА***



## МАЙСТАР ПЛАСТЫКІ

"Я выхаваны як мастак у духу рэалістычнай школы, але думаецца, што мне не чужыя пошукі новых форм у пластыцы і ў кампазіцыйных рашэннях", — гаворыць скульптар Эдуард Астаф'еў пра сябе.

Размову аб творчасці беларускага мастака хочацца пачаць не з крыніц яго станаўлення як мастака, а з сённяшняга дня, калі ён — ужо прызнаны майстар пластыкі, які знаходзіцца ў росквіце творчых сіл.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

**НА ЗДЫМКУ:** помнік Ф. Скарыне ў Празе работы Э. Астаф'ева.

## П'ЕР ЖАН БЕРАНЖЭ Ў КУШЛЯНАХ


П'ЕР ЖАН
БЕРАНЖЭ
ВЫБРАНЫЯ ПЕСНІ

Усе блізкія і родныя аўтара "Дудкі беларускай" згадваюць, што ў Багушэвічавай сям'і спраўна культывавалася французская мова. На ёй часта перамаўляліся між сабою ягоная дачка Туня і жонка. У іхняй бібліятэцы былі французскія кнігі і на французскай мове. Шкада толькі, што не прыйшло ў галаву ў сваю пару ўдакладніць, распытаць, якія з гэтых кніг помніцца — хаця б пералік. Такое ўдакладненне было б не такое ўжо малаважнае: мы ведалі б абсяг чытацкіх інтарэсаў французскай літаратуры Багушэвічаў, маглі б мець нейкае меркаванне, падставу для развагі, для роздуму. А так ведаем толькі агульна, што Багушэвічы, як і ўсе асвечаныя навукай людзі свайго часу, імкнуліся да спазнання адной з передавых культур Еўропы — французскай. Якраз веданне французскай мовы, французскай культуры, літаратуры лічылася ў тую пару прыкметай найвышэйшай культуры. І, мабыць, не выпадкова: французская літаратура дала свету шмат выдатных імёнаў. Сярод іх — Эміль Заля, Жорж Санд, Вальтэр, Жак Русо, Мапасан, Стэндаль, Віктар Гюго, Бальзак, Флабэр, Праспер Мерымэ... Пэўна ж, кніжкі згаданых французскіх пісьменнікаў былі ў Багушэвічаў. Апошні, хто бачыў Багушэвічаву бібліятэку, яшчэ не зусім разрабаваную, гэта быў стрыечны Багушэвічаў унук Янка

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

*СТАН НЕДЗЯРЖАЎНАЙ АСВЕТЫ*

## ДЫПЛОМ УЗАКОНЕНАГА ЎЗОРУ

**Да недзяржаўнай адукацыі, якая ў Беларусі існуе з 1991 года, адносіны па-ранейшаму насцярожаныя: грошы плацяцца немалыя, а дыплом нібыта і сапраўдны, але не дзяржаўны. Для многіх гэтая прыстаўка "не" адным махам несправядліва абясцэньвае доўгія гады вучобы і іх вынік. Аднак недзяржаўная адукацыя шырока развіта ва ўсім свеце, пытанне толькі ў тым, як гэтая з'ява адчувае сябе на айчыннай глебе. Пра гэта расказвае рэктар Беларускага недзяржаўнага інстытута правазнаўства доктар юрыдычных навук, прафесар Сцяпан СОКАЛ, які да нядаўняга часу ўзначальваў асацыяцыю недзяржаўных ВНУ Беларусі.**

— Недзяржаўная адукацыя ў Беларусі пачала развівацца з 1991 года, калі Вярхоўны Савет прыняў Закон аб адукацыі, дзе ўпершыню прагучала само паняцце недзяржаўнай адукацыі. Дарэчы, хачу звярнуць увагу, што ні ў Расіі, ні на Украіне слова "недзяржаўны" ў назве ВНУ ўжо не ўжываецца, каб штучна не праціпастаўляць іх традыцыйным навучальным установам і не адштурхоўваць абітурыентаў. Ды і стараліся нашы ВНУ на законнай падставе, і атрымалі ўсе неабходныя дзяржаўныя ліцэнзіі і сертыфікаты... Сёння ў Беларусі дзейнічае васемнаццаць недзяржаўных устаноў, 90 працэнтаў з іх знаходзіцца ў Мінску, аднак зауважу, што ў рэспубліцы працуе вельмі многа філіялаў недзяржаўных навучальных устаноў, у тым ліку наш інстытут мае тры філіялы, размешчаныя ў Баранавічах, Гродне і Магілёве.

— *У чым, на ваш погляд, адрозненне недзяржаўнай адукацыі ад традыцыйнай, да якой за столькі год мы прывыклі?*

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ**



**Мінск. Мікраёң Вяснянка.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*ЗАВОД У ФАНІПАЛІ*



У Фаніпалі, пад Мінскам, адбылася закладка фундамента новага завода. Сумеснае беларуска-дацкае прадпрыемства "Бел-Кеа Пласт" будзе выпускаць высакаякасныя медыцынскія вырабы, якія пойдуць як на ўнутраны рынак, так і на рынкі Заходняй і Усходняй Еўропы. Вытворчасць будзе экалагічна чыстай, праект завода ўвасабляе сучасныя тэхналогіі з мінімальным спажываннем энергіі. Будаўніцтва завода будзе весціся з прыцягненнем мясцовых субпадрадчыкаў, закончыць яго плануецца ў лістападзе гэтага года.

НА ЗДЫМКУ: віцэ-прэм'ер Васіль ДАЎГАЛЁЎ у час сімвалічнай закладкі фундамента будучага завода.

*БЕЛАРУСЬ — БРЫТАНІЯ*

### ТАВАРЫСТВА СЯБРОЎ

Чарговым пацвярджэннем сувязей, якія мацнеюць паміж англічанамі і беларусамі, стаў установчы сход таварыства "Брытанія — Беларусь", што прайшоў у Лондане. Некаторыя з яго членаў ужо неаднаразова пабывалі ў нашай краіне і з'яўляюцца ўдзельнікамі сумесных праектаў у сферы адукацыі, бескарыслівa дапамагаюць аздараўленню беларускіх дзяцей, дастаўляюць гуманітарныя грузы ў дзіцячыя дамы, школы-інтэрнаты, бальніцы.

Брытана-беларускае таварыства мае намер аказваць садзейнічанне праектам па развіццю двухбаковага супрацоўніцтва ў розных сферах жыцця і перш за ўсё ў галінах культуры, адукацыі і эканомікі.

Члены таварыства "Брытанія — Беларусь" плануюць наладзіць цесныя кантакты з беларуска-брытанскім таварыствам дружбы, якое існуе ў Мінску.

На ўстаноўчым сходзе быў абмеркаваны і прыняты статут таварыства, выбраны выканаўчы камітэт. У яго склад увайшлі вядомы хірург, былы лорд-мэр Лондана Джон Чэлстры, гісторык-беларусазнавец, ганаровы грамадзянін Заслаўя Анджэй Цеханавецкі, выкладчык факультэта славянскіх і усходнееўрапейскіх даследаванняў Лонданскага універсітэта Джым Дынглі, прадстаўнікі гарадскога савета шатландскага горада Абердзін, пабрацiма Гомеля.

*АДНАЎЛЕННЕ*

### КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

Шматгадовую работу над копіяй Крыжа Ефрасінні Полацкай завяршае брэсцкі мастак Мікалай Кузьміч. У Брэсце ў Свята-Сямёнаўскім кафедральным саборы нядаўна адбыўся важны этап узнаўлення страчанай святыні беларускай праваслаўнай царквы — абрад закладкі ў дарагую рэліквію святых мошчаў захавальніцы зямлі беларускай Ефрасінні Полацкай. Спецыяльна для гэтага ў Брэст прыязджаў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

*МІЖНАРОДНЫЯ РЭЙСЫ*

### ПАД КРЫЛАМІ «БЕЛАВІЯ»

Нацыянальная авіякампанія Рэспублікі Беларусь "БелАвія" расшырае геаграфію міжнародных палётаў: 6 чэрвеня выкананы першы рэйс па маршруту Мінск — Рым — Мінск. Ім адкрыліся рэгулярныя палёты паміж Беларуссю і Італіяй. У ліку першых пасажыраў — група беларускіх журналістаў, якія з дапамогай вядомай турыстычнай фірмы "АлатанТур" азнаёміліся з асноўнымі экскурсійнымі маршрутамі Вечнага горада, наведалі дзелавую частку італьянскай сталіцы.

У бліжэйшых планах "БелАвія" — адкрыццё рэгулярных палётаў па маршруту Мінск — Пекін — Мінск. На думку кіраўніцтва авіякампаніі, развіццё міжнародных маршрутаў "БелАвія" — сведчанне актывізацыі адносін Беларусі з зарубежнымі краінамі.

*ЖЫЦЦЁ КАНФЕСІЙ*

### ПАСВЯЧЭННЕ Ў СВЯТАРЫ

У Мінскай духоўнай семінарыі, якая знаходзіцца ў Жыровіцкім манастыры каля Слоніма, адбылося пасвячэнне ў святары слухачоў семінарыі 4-га выпуску.

Удзел у цырымоніі ўзяў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. На ўрачыстасці таксама прысутнічалі старшыня Гродзенскага аблвыканкома Аляксандр Дубко, прадстаўнікі мясцовай улады, духавенства, вернікі.

*СВЯТА ТРАКТАРАЗАВОДЦАЎ*



Традыцыйным святам адзначылі сваю 51-ю гадавіну мінскія трактарабудаўнікі. На заводскай плошчы былі арганізаваны спартыўныя спаборніцтвы для дзяцей і дарослых. Удзельнікі свята азнаёміліся з тэхнікай, выпускаемай прадпрыемствам.

Перад трактаразаводцамі выступілі Аляксандр Ціхановіч і Ядвіга Паплаўская.

НА ЗДЫМКУ: у час свята.

*ПЕРШЫ «НЕВЯРТАНЕЦ»*

### У. ПАЛУПАНАЎ ШУКАЕ ПАЛІТЫЧНАГА ПРЫСТАНІШЧА

Уладзімір Палупанаў, які 14 месяцаў адпрацаваў у пасольстве Рэспублікі Беларусь у Парыжы на пасадзе аташэ па справах культуры і прэсы, папрасіў палітычнага прыстанішча ў французскіх уладаў.

Як паведамілі ў прэс-службе беларускага МЗС, некалькі месяцаў таму было прынята рашэнне аб адкамандзіраванні Палупанава з Парыжа, што з'яўляецца звычайнай практыкай у дзейнасці знешнепалітычнага ведамства. Аднак Палупанаў вырашыў не вяртацца, хаця і быў пазбаўлены ранейшай работы ў беларускім пасольстве. Пазней ён і вырашыў папрасіць палітычнага прыстанішча.

У распаўсюджаным радыё "Франс інтэрнасьяналь" інтэрв'ю Уладзімір Палупанаў падкрэсліў, што апошняй падзеяй, якая падштурхнула яго да гэтага ўчынку, было падпісанне дагавора аб Саюзе паміж Беларуссю і Расіяй, што нясе, на яго думку, пагрозу Беларусі і цэлай Еўропе.

*ДОЎГАЖЫХАРКА*



Сто гадоў, здаецца, не ўзрост для віцьбянкі Паліны БУБНОВАЙ. Хаця і нельга сказаць, што жыццё было лёгкае. Да самай пенсіі і нават пазней працавала ў калгасе ў Гарадоцкім раёне: сеяла, жала, даіла кароў. Выгадавала чатырох дзяцей, дачакалася пецярых унукаў.

*АКЦЫЯ «ПРЫМІРЭННЕ»*

### ТЫДЗЕНЬ МІРУ-97

Днямі прадстаўнічая дэлегацыя, арганізаваная Беларускім камітэтам міру, выязджае ў Германію для ўдзелу ў традыцыйным Тыдні міру. Гэтае мерапрыемства праводзіцца рэгулярна (раз у 1—2 гады) у рамках народнай дыпламатыі і пройдзе пад эгідай міжнароднай міратворчай акцыі "Прымірэнне", пачатай у 1988 годзе.

Сёлетняя паездка з'яўляецца адказам на візіт у нашу краіну ў маі мінулага года дэлегацыі міратворчай арганізацыі "Менеарбайт" Евангелічнай царквы зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія.

У праграме Тыдня міру-97, які пройдзе з 20 па 29 чэрвеня гэтага года, будзе праведзены двухдзённы семінар па тэме: "Праблемы міру, бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе". З абодвух бакоў будуць заслуханы даклады і рэфераты, праведзены дыскусіі па гэтых праблемах, а таксама па гісторыі адносін паміж дзвюма краінамі, сацыяльна-палітычных праблемах, становішчы жанчын і інш. Важнае месца ў семінары зойме тэма: "Аб медыцынскім, сацыяльным і псіхалагічным аспектах чарнобыльскай катастрофы".

Акрамя гэтага ў праграме тыдня сустрэчы і пражыванне ў германскіх сем'ях, удзел у намечаных імі праграмах; сумесная нядзельная служба ў храме ў дзень пачатку Вялікай Айчыннай вайны 22 чэрвеня; наведванне прадпрыемстваў і фермерскіх гаспадарак, тэхналагічных цэнтраў і вучэбных майстэрань.

Заключным мерапрыемствам будзе сумесная цырымонія ўшанавання памяці ахвяр фашызму і ўскладанне кветак у філіяле Бухенвальдскага мемарыяла з удзелам бургамістра гэтага горада, нямецкіх і беларускіх удзельнікаў тыдня. Будзе таксама прынята сумесная заява, адбудзецца сустрэча з журналістамі.

У склад нашай дэлегацыі (каля 40 чалавек) уваходзяць тыя людзі, якія прымалі ў сваіх сем'ях у мінулым годзе гасцей з Вестфаліі. Яе аснову складаюць прадстаўнікі Капыльскага раёна і калектыву ВА "Тарызонт", якія ўнеслі свой уклад у арганізацыю Тыдня міру ў 1996 годзе. Удзел у Тыдні міру-97 прымаюць вядомыя вучоныя, пісьменнікі, журналісты, аграрнікі, інжынеры, прадстаўнікі грамадскіх і рэлігійных арганізацый, прафсаюзаў, уладаў і інш. Усе гэтыя людзі маюць свой пункт гледжання па працэсы, што адбываюцца ў свеце, але адзiныя ў імкненні забяспечыць мір і згоду ў грамадстве.

Неабходна адзначыць, што такая важная грамадскаміратворчая акцыя праводзіцца ў няпросты перыяд гісторыі незалежнай Беларусі. Мы імкнемся як мага лепш і аб'ектыўна прадставіць нашу краіну ў Еўрапейскай супольнасці. Галоўная мэта гэтай міжнароднай міратворчай акцыі — кантакты на ўзроўні простых людзей па прымірэнню і ўмацаванню даверу паміж краінамі і народамі, данесці на грамадскім узроўні аб'ектыўнае становішча спраў у нашых краінах, расказаць грамадзянам Германіі аб гісторыі Рэспублікі Беларусь, яе народзе і месцы Беларусі ў Еўропе. Але самае галоўнае — аб'яднаць намаганні па захаванню міру і бяспекі ў еўрапейскім рэгіёне.

І. КІРЫЧЭНКА,
старшыня Беларускага камітэта міру.

*САМАСЁЛЫ*

Праз некалькі гадоў пасля чарнобыльскай трагедыі аднавілася жыццё ў адселеных вёсках Грыдні і Белы Бераг Нараўлянскага раёна. Нягледзячы на неўладкаванасць — яны доўгі час былі пазбаўлены электраэнергіі, гандлёвага абслугоўвання, — сюды вярнуліся былыя жыхары. Іх яшчэ называюць самасёламі.



НА ЗДЫМКУ: адзін з самасёлаў вёскі Белы Бераг Мікалай АРЦЮШЭНКА на сваім падворку.

*ЮБІЛЕЙ*

### СХОВІШЧА ДАКУМЕНТАЎ

Найбуйнейшае сховішча дакументаў па гісторыі Беларусі XX стагоддзя — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь — адзначыла свой 70-гадовы юбілей.

Пачынала гэтае ведамства са 102 тысяч архіўных спраў. Цяпер НАРБ — найбуйнейшы не толькі ў Беларусі, але і ў Еўропе архіў сучаснай палітычнай гісторыі. У ім больш чым 2 000 фондаў сканцэнтравана каля 900 тысяч папак з дакументамі.

*ГРАНІЦА*

### ГРОШЫ НА ДЭМАРКАЦЫЮ

Беларускі ўрад прыняў пастанову, згодна з якой Дзяржаўнаму камітэту пагранічных войскаў рэспублікі выдзелена 18,5 мільярда рублёў на правядзенне работ па дэмаркацыі і інжынернаму ўпарадкаванню беларуска-літоўскай дзяржаўнай мяжы. Па звестках, атрыманых БЕЛТА ў аддзеле друку і інфармацыі МЗС, частка гэтых сродкаў пойдзе таксама на забеспячэнне дзейнасці беларускай часткі змешанай дэмаркацыйнай камісіі.

## ЮБІЛЕЙ ГОРАДА






**24 і 25 мая сваё 730-годдзе адзначаў горад Магілёў. Юбілей выліўся ва ўсеагульнае святкаванне, якое працягвалася і ў начны час пры святле ліхтароў і феерверкаў. Тысячы гараджан выйшлі на вуліцы, абышлі шматлікія кірмашы, пабывалі на тэатралізаваных прадстаўленнях, паслухалі спевакоў і музыкантаў, танцавалі і весяліліся.**

**НА ЗДЫМКАХ: крочаць працоўныя калектывы горада; танцуюць дзеці.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

# ДЫПЛОМ УЗАКОНЕНАГА ЎЗОРУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

— Недзяржаўная адукацыя цікавая тым, што з'яўляецца нетрадыцыйнай формай падрыхтоўкі прафесіяналаў з большай свабодай падыходу да вучэбнага плана, дае магчымасць забяспечыць аператыўнасць навучальнага працэсу, які ў дзяржаўных ВНУ жорстка лімітаваны. Да таго ж, недзяржаўная адукацыя дазваляе сфарміраваць спецыяліста, больш прыстасаванага да цяперашняга стану грамадства, бо яна больш мабільная за традыцыйную.

Іншая справа, што не ўсе гэтыя магчымасці могуць выкарыстоўвацць, а любы пракол у недзяржаўнай адукацыі сёння выкліча тое, што будзе пастаўлена пад сумненне дзейнасць усіх недзяржаўных ВНУ.

*— Аднак нягледзячы на тое, што ў 1991 годзе быў прыняты закон, які рэгулюе работу недзяржаўных ВНУ, засталося шмат нявырашаных праблем, і галоўная з іх — дыплом дзяржаўнага ўзору...*

— Натуральна, што закон не вырашыў усіх нашых праблем. Перш за ўсё, мы сутыкнуліся з тым, што грамадства было не гатова прыняць саму ідэю недзяржаўнай адукацыі, да таго ж, першапачаткова прадастаўленыя свабоды аказаліся ўяўнымі. Заканадаўца агаворваў, што дзяржава фармулюе толькі мінімум патрабаванняў да недзяржаўнай адукацыі, пэўную базу, а ўсё астатняе, своеасаблівую надбудову, нарошчвае сама навучальная ўстанова. На самай жа справе ўзнікла новая праблема — дзяржаўны дыплом. Заўважу, што ва ўсім свеце паняцце "дзяржаўны дыплом" увогуле адсутнічае. Існуе ўзаконены дыплом, які па пэўнай працэдуры прыводзіцца ў адпаведнасць з законам ці акрэдытуецца. Калі існуе адзіны дзяржаўны дыплом, то маецца на ўвазе, што аб'ём патрабаванняў, якія прад'яўляюцца да ведаў, таксама павінен быць "дзяржаўным", а гэта магчыма толькі пры наяўнасці тыповых вучэбных планаў. Значыць, прадастаўленая свабода аказваецца вельмі адноснай. Я дапускаю, што такая сітуацыя склалася аб'ектыўна, недзяржаўная адукацыя — справа новая, і толькі ў гэтым годзе будзе пастаўлена пытанне аб дыпломе ўзаконенага, а не дзяржаўнага ўзору.

*— А як гэтая праблема вырашаецца цяпер?*

— Пакуль ніяк...

*— Як вы ставіцеся да таго, што ў дзяржаўных ВНУ з гэтага года зноў уведзена абавязковае размеркаванне выпускнікоў?*

— Я лічу, што размеркаванне — элемент адміністрацыйнай сістэмы, у нармальным грамадстве гэтае пытанне рэгулюецца попытам і прапановай, як гэта і павінна быць у сферы паслуг, да якой, лічу, адносіцца і адукацыя. Я не бяруся гаварыць аб усіх недзяржаўных ВНУ, але ў нас праблем з працаўладкаваннем нашых выпускнікоў пакуль не было, і ні адзін з іх — а ў нас ужо было тры выпускі, у гэтым годзе будзе чацвёрты — не застаўся без працы. Думаю, што і ў іншых гэтак жа.

*— Вы ўпэўнены, што такое становішча захаваецца?*

— Зусім не, і ўжо бачу праблему, з якой мы можам сутыкнуцца ў бліжэйшы час. Калі рыначныя адносіны ў Беларусі будуць развівацца нармальным шляхам і адпаведнымі тэмпамі, то практычна кожнаму прадпрымальніку неабходная будзе юрыдычная падтрымка, і, натуральна, рэзка ўзрасце патрэба ў юрыстах. Калі ж рыначныя працэсы ў рэспубліцы будуць стрымлівацца і ісці марудна, можа здарыцца так, што колькасць выпускаемых юрыстаў абгоніць патрэбы грамадства, і тады гэтыя спецыялісты не будуць карыстацца попытам. Такая небяспека сапраўды існуе. Успомніце, якое імклівае развіццё ў нас некалі атрымаў менеджмент, а цяпер цікавасць да гэтай спецыяльнасці значна знізілася. Я магу меркаваць аб гэтым, бо пры нашым інстытуце ёсць тэхнікум бізнесу і права, і жадаючых пайсці вучыцца на менеджэра ўжо амаль няма...

*— Магчыма, гэта вынік таго, што ў рэспубліцы не атрымліваюць належнага развіцця рыначныя адносіны?*

— Так, менеджэр — гэта арганізатар і каталізатар рыначных працэсаў.

*— Ці не ўзнікае ў вашых выпускнікоў праблем ужо пасля паступлення на службу, ці адпавядаюць атрыманыя імі веды патрабаванням, што прад'яўляюцца ў дзяржаўных установах?*

— Я не ведаю выпадкаў, каб суд ці пракуратура адмовіліся ад нашых выпускнікоў, ды і статус нашага дыплома ніхто не падвяргаў сумненню.

*— Каго ў асноўным рыхтуюць недзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы?*

— Недзяржаўная адукацыя пабудавана на спецыяльнасцях, якія не патрабуюць асаблівых затрат для стварэння матэрыльна-тэхнічнай базы. Як правіла, гэта менеджмент, юрыдычныя спецыяльнасці, а таксама эканамічныя і фінансавыя. Інжынераў і медыкаў мы рыхтаваць пакуль не можам: там патрабуецца больш грунтоўная матэрыяльна-тэхнічная база.

*— Аднак спецыялістаў пералічаных вамі прафесій рыхтуюць таксама многія дзяржаўныя навучальныя ўстановы. Ці няма, на ваш погляд, небяспекі лішку бухгалтараў і суддзяў?*

— Так, нельга не заўважыць, што сёння практычна ўсе недзяржаўныя ВНУ паўтараюць адны і тыя ж спецыяльнасці, прычым, дзве трэція з іх рыхтуюць юрыстаў, і як чалавек, што ўвайшоў у рынак, я выдатна разумею, што гэта мае канкурэнты, і ўжо можна гаварыць аб конкурсе ВНУ. З аднаго боку, гэта нядрэнна, таму што спажывец атрымлівае магчымасць выбіраць, каго прымаць на работу, чые спецыялісты лепш падрыхтаваны, і, адпаведна, ВНУ будуць вымушаны павышаць якасць адукацыі. З другога боку, пацерпяць студэнты, якія аказаліся ў непрэстыжных ВНУ. Нашы людзі да гэтага не прывыклі, яны лічаць, што вышэйшая адукацыя ці ёсць, ці няма, а тое, што ў яе існуюць свае градацыі, для многіх будзе нечаканасцю. І дзе гарантыі, што заўтра не выйдуць на вуліцу абураныя бацькі з патрабаваннем разагнаць, прыняць меры, навесці парадак? Тым больш, што апошнім часам рэзка павялічылася колькасць платных паслуг, прадастаўляемых дзяржаўнымі ВНУ, у прыватнасці, юрыдычнымі факультэтамі.

*— Як сёння складваюцца адносіны недзяржаўнай адукацыі і дзяржавы?*

— Я думаю, што пакуль больш-менш нармальна. Усё абумоўлена тым, як да гэтага падыходзіць. З аднаго боку, дзяржава мае права патрабаваць, каб недзяржаўныя ВНУ адпавядалі пэўным крытэрыям, з другога боку, за шэсць год, з таго часу, як быў прыняты Закон аб адукацыі, мы клопату і дапамогі з боку дзяржавы не адчулі. Так, з нас знялі падатак на дабаўленую вартасць, гэта ўжо добра, таму што ён у канчатковым выніку плаціцца з кішэні студэнтаў, Міністэрства адукацыі запрашала нашых прадстаўнікоў на шэраг нарад, мы стварылі асацыяцыю недзяржаўнай адукацыі. Але я, напрыклад, не магу ўзяць крэдыт на развіццё сваёй ВНУ, нашы студэнты сацыяльна не абаронены, нягледзячы на тое, што кожны чалавек, які знаходзіцца ў сферы занятасці, павінен атрымліваць нейкую плату, а яны самі плацяць за сваё навучанне. І калі ў студэнта, які некалькі гадоў правучыўся ў нашай ВНУ, раптам зменіцца маёмаснае становішча, ён не зможа нават узяць у банку мэтавы крэдыт, каб прадоўжыць адукацыю. Я шчаслівы, што ў свой час нам удалося купіць хаця б гэты будынак, ён — наша ўласнасць. А ўвогуле ж, толькі тры з васемнаццаці недзяржаўных ВНУ маюць свае ўласныя будынкі, усе астатнія арандуюць памяшканні, кожны дзень гадаючы, выганяць іх заўтра ці проста так паднімуць арэндную плату, што давядзецца згортвацца. Было б лагічна і мэтазгодна прадаставіць навучальнай установе хоць якую-небудзь ільготу ў аплаце арэндуемых памяшканняў, мы ў сакавіку за наш магілёўскі філіял усяго за месяц заплацілі 72 мільёны рублёў... Увогуле, я не магу сказаць, што паміж дзяржавай і недзяржаўнымі ВНУ ёсць нейкае процістаянне, але хацелася б большага разумення і падтрымкі.

*— З якіх разлікаў бярэцца плата за абучэнне ў недзяржаўных ВНУ і ці існуе якая-небудзь адзіная для ўсіх стаўка?*

— Такой стаўкі няма, а плату кожная ВНУ назначае індывідуальна. У яе, як правіла, закладваецца зарплата выкладчыкаў, набыццё аргтэхнікі, падаткі і затраты на арэнду памяшканняў. Яшчэ адзін момант, які даводзіцца ўлічваць, гэта развіццё на перспектыву. Так, мы сёння будуем новае памяшканне ў цэнтры горада. Паверце, што прыбытку мы не атрымліваем абсалютна ніякага. Хачу заўважыць, што ў свеце няма прадпрымальнікаў ці бізнесменаў, якія б зрабілі капітал на адукацыі. Так, ёсць прэстыжныя ВНУ, дзе прафесарска-выкладчыцкі састаў атрымлівае добрыя зарплаты, дзе ёсць магчымасць весці навуковую работу ў выдатна абсталяваных лабараторыях, бязбедна існуе рэктар, але прыбытку яны не прыносяць.

*— Якую ролю сёння ў аплаце вучобы студэнтаў адыгрываюць спонсары?*

— Я сказаў бы, што пытанне ахвяраванняў у нас яшчэ не адрэгулявана, людзі не хочуць выступаць у якасці спонсараў, таму што баяцца "засвяціцца". Да таго ж сумы, патрачаныя на адукацыю, не вызваляюцца ад падаткаабкладання, так што стымуляваць адукацыю, як і культуру, у нас нявыгадна. Хаця мецэнацтва ў сферы адукацыі — гэта тыповая з'ява, развітая ва ўсім свеце, і паколькі ў нас яно цяпер практычна адсутнічае, адзіная крыніца сродкаў для існавання ВНУ — гэта грошы навучэнцаў. Іншы раз, здараецца, якая-небудзь фірма згаджаецца выдзеліць грошы, каб мы прэміравалі лепшых студэнтаў, але гэта бывае крайне рэдка і невялікімі сумамі.

*— Ці бываюць выпадкі, калі фірма аплачвае падрыхтоўку патрэбнага ім спецыяліста?*

— Бывае, але рэдка, і калі ў першыя гады нашага існавання 80 працэнтаў студэнтаў вучыліся за кошт фірм, калгасаў, саўгасаў, прадпрыемствы аплачвалі падрыхтоўку будучых кадраў, і толькі 20 працэнтаў за сваю вучобу плацілі самі, то сёння ўсё наадварот: толькі 20 працэнтаў навучэнцаў маюць спонсарскую падтрымку, астатнія ж вучацца на свае грошы. Прычым, вучоба ажыццяўляецца ў складчыну, іншы раз бывае, што грошы збірае ўся сям'я, уключаючы бабуль, дзядуль і далёкіх сваякоў. Я ведаю ВНУ, дзе плацілі 1 100—1 200 долараў. Мы спрабавалі браць 750 долараў са студэнта ў год, але атрымалася, што максімальная плата, якую мы можам патрабаваць, — гэта 600 долараў, таму што плата была ўстаноўлена не ў доларах, а ў мінімальных стаўках заработнай платы, якія раслі значна марудней, чым валютны курс, і мы вельмі моцна прайгралі.

*— Цяпер закончылася акрэдытацыя недзяржаўных навучальных устаноў. Ці многія яе не прайшлі?*

— Наколькі я ведаю, пакуль толькі эканоміка-лінгвістычны універсітэт. У адносінах астатніх рашэнне было станоўчым.

Праблем у нас мноства, і я сёння за лёс сваёй ВНУ, ды і ўсёй недзяржаўнай адукацыі перажываю больш, чым тады, калі ўсё пачыналася. Прычым, цяпер я баюся не толькі за сябе, але і за іншых, таму што калі ў каго-небудзь што-небудзь не атрымаецца, гэта ўдарыць па тых, хто працуе нармальна. Я перакананы, што сістэма недзяржаўных ВНУ выжыве і будзе развівацца, складзецца імідж недзяржаўных ВНУ, вырашыцца пытанне з дыпломамі і яны зоймуць дастойнае месца ў сістэме вышэйшай і сярэдняй адукацыі рэспублікі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ЧАС ГОІЦЬ І ПРЫМІРАЕ

# МЁРТВЫЯ НЕ БУДУЦЬ БОЛЬШ СТАЯЦЬ МІЖ НАМІ...

**Вайна ўсё далей адыходзіць ад нас — і мяняецца наш пункт погляду на яе. Час не толькі згладжвае парваныя краі і кулявыя прабоіны памяці. Прыкмета нашых дзён — адкрыццё праўды аб рэчах, здавалася б, даўно вядомых. І яшчэ — карэкцыя нашай маральнай свядомасці. Быць чалавекам трэба заўсёды, у тым ліку і ў адносінах да пераможанага праціўніка. Гэтая ісціна не заўсёды была ісцінай для нас...**

**Наш субяседнік — доктар Герхард ГОЛЬЦ, Генеральны сакратар Народнага саюза Германіі па догляду ваенных магіл, які нядаўна наведаў Беларусь.**

*— Пан Гольц, у чым заключаецца мэта вашага візіту ў Рэспубліку Беларусь?*

— Мы з дапамогай пасольства ФРГ у Мінску правялі перагаворы з Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь аб нашай сумеснай рабоце, бо ў пагадненні аб доглядзе ваенных магіл, якое падпісана, але яшчэ не ўступіла ў сілу, у якасці арганізацый, якія займаюцца гэтым пытаннем, з беларускага боку названа Міністэрства абароны, а з нашага боку — Народны саюз Германіі па догляду ваенных магіл. Я думаю, што гэтыя перагаворы ўсяляюць вялікую надзею на поспех. Мы, ва ўсякім выпадку, абмеркавалі пытанні, што тычацца абмену інфармацыяй і практычнага супрацоўніцтва. Мы дамовіліся аб тым, што яшчэ раз падумаем аб формах нашага супрацоўніцтва і зноў пачнём перагаворы.

*— Раскажыце, калі ласка, аб структуры, формах работы нямецкага саюза па догляду ваенных магіл на тэрыторыі Германіі.*

— Германскі Народны саюз па

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

# ПАЛІТЫЧНАЯ ВЯСНА 1917-га: НАДЗЕІ І РАСЧАРАВАННІ

МІНУЛА восем дзесяцігоддзяў з тых дзён, як на схіле сцюдзёнай і паўгалоднай зімы 1916/17 года — трэцяй зімы сусветнай ваеннай бойні — у сталіцы Расійскай імперыі Петраградзе выбухнула паўстанне замучанага харчовымі нястачамі народа. 27 лютага (12 сакавіка па новым стылі), калі да паўстанцаў далучыліся войскі магутнага Петраградскага гарнізона, галоўны горад Расійскай дзяржавы канчаткова выйшаў з-пад падпарадкавання царскай адміністрацыі. Падчас паўстання з ліку ліберальных дэпутатаў Дзяржаўнай думы ўтварыўся часовы думскі камітэт, які ў ноч на 28 лютага абвясціў аб узяцці ўлады ў краіне. Адначасова прадстаўнікі левай, сацыялістычнай часткі антыцарскай апазіцыі арганізавалі Петраградскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У выніку перамоў паміж думскімі дзеячамі і лідэрамі Савета 1 сакавіка быў сфарміраваны Часовы ўрад на чале з князем Г. Львовым. Дамінуючыя пазіцыі ва ўрадзе занялі канстытуцыйныя дэмакраты (кадэты) — прадстаўнікі галоўнай партыі расійскіх лібералаў. Часовы ўрад абавязваўся забяспечыць у краіне дэмакратычныя правы і свабоды і давесці яе да Устаноўчага сходу. Петраградскі Савет, узначалены адным з лідэраў меншавіцкай часткі РСДРП М. Чхеідзе, карыстаўся непадзельнай падтрымкай узброенага народа, але не ўзяў у свае рукі распарадчую і выканаўчую ўладу, захаваўшы за сабой толькі кантроль над урадам. Кіраўнікі Савета (памяркоўныя сацыял-дэмакраты і сацыялісты-рэвалюцыянеры) былі перакананы, што на шляху да сацыялізму Расіі належыць прайсці працяглы этап эвалюцыйнага развіцця на аснове парламенцкай дэмакратыі і капіталістычнай эканомікі.

Цара Мікалая II смута заспела ў Стаўцы Вярхоўнага галоўнакамандуючага ў Магілёве. Не здолеўшы задушыць паўстанне ў сталіцы і не дачакаўшыся падтрымкі з боку вышэйшых военачальнікаў, ён 2 сакавіка адрокся ад прастола.

Гэтыя падзеі ўвайшлі ў падручнікі гісторыі як Лютаўская рэвалюцыя 1917 года. Ёю пачаўся глыбокі, усеабдымны сацыяльны выбух, які амаль бесперапынна доўжыўся некалькі гадоў і стаў кардынальным паваротам у лёсе народаў былой царскай імперыі.

Вестка пра пачатак рэвалюцыі ў Петраградзе ў лічаныя дні разнеслася па бяскрайніх прасторах гіганцкай краіны. На Беларусі, распалавіненай з поўначы на поўдзень лініяй расійска-германскага фронту, у вір рэвалюцыйных падзей уключыліся пасля лютага 1917 года толькі Віцебская, Магілёўская і ўсходняя частка Мінскай губерняў з горадам Мінскам, а таксама дыслацыраваныя ў гэтых губернях 2-я, 3-я і 10-я арміі Заходняга фронту Расіі (штаб фронту размяшчаўся ў Мінску). Гродзенская, захад Мінскай і частка беларускай тэрыторыі Віленскай губерняў з восені 1915 года знаходзіліся пад германскай акупацыяй.

Беларускае жыхарства і вайскоўцы ў пераважнай большасці з энтузіязмам сустрэлі падзенне царызму. У губернскіх і павятовых гарадах, мястэчках наладжваліся сходы, мітынгі, удзельнікі якіх раззбройвалі паліцыю, вызвалялі з турмаў палітычных зняволеных. Урачыстыя маніфестацыі адбыліся 3 сакавіка ў Гомелі, 5-га — у Магілёве, 6 сакавіка — у Мінску.

Дзейнасць царскага дзяржаўнага апарату была паралізавана. Каб забяспечыць парадак і бяспеку насельніцтва, па ініцыятыве гарадскіх дум і земстваў, палітычна актыўных груп інтэлігенцыі паўсюдна сталі ўзнікаць самадзейныя органы кіравання. Паводле ўзору часоў Вялікай Французскай рэвалюцыі XVIII стагоддзя яны нярэдка называліся камітэтамі грамадскай бяспекі. У Мінску ўтварэнне такога органа было аформлена 7 сакавіка на шматлюдным сходзе грамадскасці пад старшынствам камандзіраванага сюды дэпутата Дзяржаўнай думы, вядомага ліберала М. Шчэпкіна (унук знакамітага рускага акцёра). У ліку прадстаўнікоў ад розных арганізацый у Мінскі камітэт увайшлі выдатны беларускі гісторык М. Доўнар-Запольскі, ветэран народніцкага руху С. Кавалік, праслаўлены ў будучыні дзеяч бальшавіцкай партыі і Савецкай дзяржавы М. Фрунзе (ён узначаліў аператыўна сфарміраваную замест паліцыі гарадскую міліцыю) і іншыя.

Пры арганізацыі камітэтаў імкнуліся як мага паўней улічыць сацыяльныя, нацыянальныя, палітычныя інтарэсы ўсіх груп насельніцтва. У Віцебскім гарадскім грамадскім камітэце, напрыклад, былі прадстаўлены 48 устаноў і грамадскіх аб'яднанняў. Прынцып шырокага плюралізму быў праведзены і пры выбранні Камітэта па ахове грамадскай бяспекі ў Магілёве.

На працягу сакавіка 1917 года падобныя камітэты ўзніклі ва ўсіх павятовых гарадах, многіх мястэчках Усходняй Беларусі. У валасцях замест скасаваных валасных праўленняў ствараліся больш дэмакратычныя валасныя камітэты.

Галоўнай адметнасцю грамадскіх камітэтаў, якія ў першыя тыдні рэвалюцыі сталі асноўнымі носьбітамі мясцовай улады, быў пазасаслоўны, пазакласавы характар. Поруч з маёмаснымі класамі ў іх была прадстаўлена інтэлігенцыя, гарадскія і сельскія нізы, вайскоўцы. Яны ўвасобілі сабой вопыт (на жаль, вельмі кароткачасовы і рэдкі ў нашай гісторыі) мірнага ўзаемадзеяння розных грамадска-палітычных сіл, былі спробай усталявання грамадзянскай згоды на аснове сцвярджэння дэмакратычных каштоўнасцяў.

У тыя ж дні пачаў ствараць сваю сістэму кіравання і Часовы ўрад. 4 сакавіка пасады губернатараў і павятовых спраўнікаў былі скасаваны. Іх месца занялі прызначаныя ўрадам губернскія і павятовыя камісары. У Мінскай губерні ўрадавую "вертыкаль" узначаліў старшыня губернскай земскай управы Б. Самойленка, у Віцебскай — таксама земскі дзеяч М. Карташоў (неўзабаве, аднак, арыштаваны вайскоўцамі мясцовага гарнізона і заменены былым дэпутатам I Дзяржаўнай думы, кадэтам А. Валковічам), у Магілёўскай — член Дзяржаўнага савета Расіі князь Друцкі-Сакалінскі (які таксама доўга не ўтрымаўся, бо не здолеў знайсці агульнай мовы з Магілёўскім Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў).

На хвалі рэвалюцыйнага ўздыму адначасова з агульнадэмакратычнымі органамі кіравання па прыкладу Петраграда сталі ўзнікаць класавыя арганізацыі рабочых, салдат, сялян — Саветы. Яны акумулявалі ў сабе шматкратна ўзмоцненую вайной і рэвалюцыяй цягу працоўнага люду да сацыяльнай справядлівасці, з'яўляліся формай яго далучэння да палітыкі. Адным з першых на Беларусі ўтварыўся Савет у Мінску. Тут ужо ў першы тыдзень сакавіка па ініцыятыве арыентаваных на левыя партыі служачых мясцовых устаноў па абслугоўванні фронту адбыліся выбары дэпутатаў ад прадпрыемстваў горада і часцей гарнізона. Канчаткова Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў аформіўся 8 сакавіка, калі быў сфарміраваны яго кіруючы орган на чале з сацыял-дэмакратам — "міжраёнцам" Б. Пазернам. У Віцебску, дзе таксама размяшчаўся шматлікі гарнізон, утварэнне карпаратыўных арганізацый рабочых і салдат узяў пад сваю апеку Петраградскі Савет, накіраваўшы сюды спецыяльнага пасланца. У хуткім часе Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў узніклі ў Магілёве, Бабруйску, Барысаве, Оршы, Полацку, Слуцку, іншых населеных пунктах.

Трохі пазней сталі фарміравацца Саветы сялянскіх дэпутатаў. Да лета 1917 года Саветы пакрылі густой сеткай усю неакупаваную тэрыторыю Беларусі.

*Насуперак пашыранаму ўяўленню, на пачатку рэвалюцыі яны афіцыйна не прэтэндавалі на ролю самастойных суб'ектаў улады. Як і Петраградскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, Саветы Беларусі лаяльна паставіліся да Часовага ўрада і яго органаў на месцах, звычайна прызнавалі прыярытэт за камітэтамі грамадскай бяспекі, у склад якіх пасылалі сваіх пастаянных прадстаўнікоў. Падкрэслім, што Саветы 1917 года нельга атаясамліваць з сённяшнімі аднайменнымі органамі прадстаўнічай улады, хоць апошнія і звязаны генетычна з першымі. У адрозненне ад цяперашніх, Саветы перыяду рэвалюцыі камплектаваліся не на аснове ўсеагульных выбараў, а шляхам дэлегавання дэпутатаў калектывамі прадпрыемстваў і воінскіх часцей. Яны былі своеасаблівымі грамадскімі аб'яднаннямі, якія адлюстроўвалі карпаратыўныя інтарэсы хаця і вялікай, але толькі часткі насельніцтва. Па гэтай прычыне ў іх не было фармальна-юрыдычных падстаў ажыццяўляць уладныя функцыі, што, аднак, зусім не бянтэжыла юрыста па адукацыі У. Леніна, які выставіў лозунг "Уся ўлада Саветам!"*. Натуральна, што аб'яднаны ў Саветах "просты" люд тым больш не ўнікаў у юрыдычныя тонкасці. Таму на практыцы Саветы, маючы ў асобе салдат узброеную апору, сталі ўмешвацца ў канфлікты паміж рабочымі і прадпрымальнікамі (не без іх уплыву ў першай палове 1917 года ва Усходняй Беларусі адбылося каля 60 забастовак, больш за 200 аграрных правапарушэнняў), дамагаліся ўвядзення 8-гадзіннага рабочага дня, зніжэння беспрацоўя, дыктавалі кадравыя прызначэнні і г. д. Гэтымі ж пытаннямі займаліся і камітэты грамадскай бяспекі, камісары, гарадскія думы, земствы, з-за чаго пры неразмежаванасці кампетэнцый на месцах рэальна ўзнікла сітуацыя шматуладдзя. Ва ўмовах агульнай неразбярыхі легальна вырашыць якую-небудзь праблему звычайнаму чалавеку станавілася практычна немагчыма. У выніку толькі што здабытая свабода выклікала расчараванне, не паспеўшы замацавацца ў масавай свядомасці як безумоўная каштоўнасць, якою трэба даражыць.

Выразнай дамінантай на палітычным ландшафце Беларусі 1917 года выступаў Заходні фронт. У яго арміях налічвалася тады больш за 1,6 мільёна салдат, афіцэраў і ваенных чыноўнікаў; у дадатак звыш ста тысяч вайскоўцаў праходзілі службу ў тылавых гарнізонах фронту. Ад паводзін гэтай масы ўзброеных людзей не ў апошнюю чаргу залежала перспектыва расійскай рэвалюцыі ўвогуле і вынік удзелу Расіі ў сусветнай вайне. Яны аказвалі велізарны ўплыў на грамадскае жыццё Беларусі, у значнай меры вызначалі яе далейшы лёс.

Салдаты і большасць афіцэраў фронту хутка перайшлі на бок рэвалюцыі. Як гістарычную непазбежнасць успрынялі падзенне Мікалая II і галоўнакамандуючы Заходнім фронтам генерал А. Эверт.

Галоўнай тэндэнцыяй вайсковага жыцця стала яго дэмакратызацыя, пачатая загадам № 1 Петраградскага Савета ад 1 сакавіка 1917 года. 8 сакавіка дакумент быў прадубліраваны Мінскім Саветам. Салдаты ўраўноўваліся ў правах з усімі грамадзянамі. Загад прадпісваў выбраць ва ўсіх падраздзяленнях салдацкія камітэты (аналаг цывільных Саветаў) і ўводзіў паралельнае падпарадкаванне ім воінскіх часцей. Выдача зброі афіцэрам без ведама ротных і батальённых камітэтаў катэгарычна забаранялася. Салдацкія камітэты, адстойваючы грамадзянскія правы вайскоўцаў, сталі пастаянна ўмешвацца ў дзейнасць камандзіраў, часта выказвалі ім недавер і дамагаліся адхілення ад пасад.

**Станіслаў РУДОВІЧ.**

**(Заканчэнне будзе).**

---

*СПАРТЫЎНАЕ ЖЫЦЦЁ*

# ПІЛІ ЗА ЗДАРОЎЕ, ВЫПІЛІ ЗА ПАМІН ДУШЫ

Скандалы, звязаныя з прымяненнем спартсменамі допінгу, трывала выйшлі за рамкі атрыбута "спорту капіталістычных краін" (менавіта такую характарыстыку допінгу давалі ўсе савецкія энцыклапедыі). На ніве прымянення спартсменамі забароненых прэпаратаў ужо "вызначыліся" практычна ўсе постсавецкія дзяржавы, у тым ліку і Беларусь. Але скандал, які выбухнуў зусім нядаўна, стаў самым гучным у гісторыі суверэннага беларускага спорту — ад удзелу ў стартуючых у Харватыі і ЮАР чэмпіянатах Еўропы і свету па цяжкай атлетыцы адхілены мужчынская і юніёрская зборныя Беларусі. Прычына ў тым, што ў спартсменаў Марчанкі, Хлуда, Магера, Крушэвіча, Дарашэвіча пробы на допінг-кантроль далі станоўчы вынік.

Дарэчы, наяўнасць у вышэйпрыведзеным пераліку спартсмена з Наваполацка Фёдара Магера сведчыць, што прымяненне допінгу беларускімі цяжкаатлетамі стала проста сістэмай: у Магера толькі напярэдадні скончыўся тэрмін дыскваліфікацыі ўсё з-за той жа станоўчай пробы пры допінг-кантролі.

Па правілах большасці міжнародных спаборніцтваў абавязковае тэстыраванне на допінг праходзяць прызёры і яшчэ некалькі спартсменаў, якіх выбіраюць па жэрабю. Шырока вядома толькі пра адзін скандал, што адбыўся непасрэдна на спаборніцтвах. Тады беларускага цяжкаатлета Аляксандра Курловіча Міжнародная федэрацыя дыскваліфікавала на адзін год. Цікава, што тэрмін дыскваліфікацыі скончыўся ў 1996 годзе, аб'яўленым Міжнародным алімпійскім камітэтам годам барацьбы з допінгам. Але ў тым жа 1996-м была дыскваліфікавана другая беларуская спартсменка — акурат напярэдадні Алімпіяды станоўчы вынік далі пробы нашай скакухі ў вышыню Таццяны Шэлчык.

У большасці спартсменаў краін былога Савецкага Саюза з некаторых часоў асобыя непрыемнасці звязаны з прымяненнем прэпарата брамантан. Прэпарат быў вынайдзены савецкімі фармаколагамі і выкарыстоўваўся менавіта савецкімі (а цяпер — расійскімі, беларускімі, украінскімі) спартсменамі. Брамантан быў забаронены параўнаўча нядаўна — 4 ліпеня 1996 года, за 15 дзён да адкрыцця Алімпіяды ў Атланце. Сам па сабе стымулюючым сродкам гэты прэпарат не з'яўляецца, дакладней, назваць яго такім можна, але з вялікімі нацяжкамі. Адзіны лячэбны эфект брамантана: ён дазваляе павялічыць супраціўляльнасць арганізма да інфекцый за кошт паляпшэння работы імуннай сістэмы. Але ёсць і іншы эфект: брамантан цудоўна "маскіруе" прымяненне іншых забароненых прэпаратаў.

У Беларусі да шырокай грамадскасці даходзяць толькі самыя буйныя скандалы, таму цяжка сказаць, у каго з нашых спартсменаў узніклі на Алімпіядзе ў Атланце непрыемнасці. Што ж тычыцца Расіі, то медкамісія падазравала ў прыменні брамантана 16 расійскіх спартсменаў, да траіх прыменены санкцыі.

Дарэчы, цікава, што "любоў да допінгу" мае выразна выяўлены асаблівасці ў залежнасці ад відаў спорту. Самай бруднай у гэтым плане лічыцца менавіта цяжкая атлетыка. І часова адхілены ад сваіх пасад трэнеры абедзвюх беларускіх зборных (дарэчы, цікава, што калектыў трэнераў нацыянальнай зборнай штангістаў узначальвае аднойчы "злоўлены" на ўжыванні забароненых прэпаратаў Аляксандр Курловіч) сталі не адзінымі ахвярамі на ніве барацьбы за чысціню спорту, а калі больш канкрэтна — цяжкай атлетыкі. Як запэўнілі ў дыспансеры медыцынскай рэабілітацыі і спартыўнай медыцыны (па зразумелых прычынах субяседнік пажадаў застацца невядомы), забароненыя прэпараты прымаюць практычна ўсе спартсмены. І адна з галоўных задач цяжкаатлета і яго трэнера — разлічыць дазіроўку ці методыку так, каб не папасціся на допінг-кантролі. Тычыцца гэта, дарэчы, не толькі беларускіх штангістаў.

(Заканчэнне на 8-й стар.).



У Лунінецкім раёне галоўнага ўрача Краснавольскай участковай бальніцы Валянціну Кароль ведаюць як вопытнага шматпрофільнага спецыяліста. Участак у яе адказны, самы заражоны чарнобыльскім попелам у раёне, пражывае ў ім больш за пяць тысяч чалавек, і яна там адзіны ўрач з вышэйшай адукацыяй. Вось і даводзіцца штодзённа прымаць дзесяткі хворых.

НА ЗДЫМКУ: сёлета Валянціна Канстанцінаўна адзначае дваццацігоддзе работы на адным месцы.

Фота Рамана КАБЯКА.

## З ЛАТВІІ

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ У РЫЗЕ

У Рызе прайшоў Беларускі дзень у Дыпламатычным салоне, дзе адбылося прадстаўленне беларускай дыяспары ў Латвіі палітычным, дзелавым і творчым колам. Перад прысутнымі, сярод якіх быў мэр горада Рыгі Андрыс Берзіньш, паслы Расіі, Украіны і Літвы, вядомыя бізнесмены, кіраўнікі творчых саюзаў, прадстаўнікі прэсы і тэлебачання, выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Латвіі Валянцін Вялічка.

Спадар Вялічка сказаў: "Самыя блізкія адносіны, якія склаліся гістарычна, існуюць між народамі Латвіі і Беларусі. Беларусы тут пражываюць здаўна, зараз іх болей 100 тысяч, і рака, якая працякае па тэрыторыі нашых дзвюх краін, сімвалізуе дружбу, што існавала між намі стагоддзямі. Сталі традыцыйнымі Дні культуры дзвюх краін у Віцебску і Рэзэкне, Мінску і Даўгаўпілсе, узаемныя кантакты бізнесменаў і прадпрымальнікаў. За апошнія тры гады гандлёва-эканамічныя адносіны ўзраслі ў 11 разоў, і Латвія сярод партнёраў Беларусі сёння трывала займае пятае месца..."

Потым госці паглядзелі канцэрт, падрыхтаваны мясцовымі беларусамі і артыстамі з Мінска: выступалі фальклорны ансамбль "Надзея", спявачка Нацыянальнай оперы Тамара Клімко, скрыпач Аляксей Калеснікаў са сваім бацькам акардыяністам Сяргеем Міхайлавічам, прафесійны музычны гурт "Свята". Не абышлося тут, вядома, і без беларускай кухні.

Добра запомніўся мне гэты дзень і прыемнымі размовамі са шчырымі беларусамі: саветнікам Пасольства Беларусі ў Латвіі Наталляй Голубевай, старшынёй суполкі "Прамень" Міколам Бурым і яго намеснікам Алесем Карповічам, рэдактарам газеты "Прамень" Лявонам Шакаўцом, кіраўніком ансамбля "Надзея" Зояй Кальвіш, вядомымі прадпрымальнікамі Валянцінай Піскуновай і Янкам Кабановічам. Радуе, што мацнеюць сувязі рыжскіх і даўгаўпілскіх беларусаў.

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА,
старшыня беларускай суполкі "Уздым".
г. Даўгаўпілс.

# МЁРТВЫЯ НЕ БУДУЦЬ БОЛЬШ СТАЯЦЬ МІЖ НАМІ...

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

догляду ваенных магіл з'яўляецца прыватным таварыствам і створаны на падставе заканадаўства аб грамадскіх арганізацыях. Аднак нам даручана дзяржаўная задача. Догляд ваенных магіл адносіцца да сферы вынікаў войнаў, а пытанні, звязаныя з вынікамі войнаў, уваходзяць у кампетэнцыю федэральных органаў. Урад Федэратыўнай Рэспублікі Германіі даручыў нам ажыццяўляць работы па догляду ваенных магіл за мяжой. Гэта значыць, што мы выконваем практычную работу па догляду нямецкіх ваенных магіл за мяжой. Унутры краіны гэтыя задачы выконваюць гарады і абшчыны, г. зн. пытанні догляду ваенных магіл уваходзяць у кампетэнцыю федэральных земляў і пераносяцца адпаведна на ўзровень гарадоў і абшчын. Такім чынам, сфера нашай кампетэнцыі распаўсюджваецца выключна на замежжа.

*— На якой падставе сёння ажыццяўляецца супрацоўніцтва нямецкага Народнага саюза з дзяржаўнымі і недзяржаўнымі органамі Беларусі па вырашэнню праблем аб доглядзе ваенных магіл?*

— Да той пары, пакуль пагадненне аб ваенных магілах афіцыйна яшчэ не ўступіла ў сілу, асновай нашай работы з'яўляецца міжнароднае права, у прыватнасці, пагадненне аб Міжнародным Чырвоным Крыжы ад 1949 года, у якім урэгуляваны пытанні ў адносінах ваеннапалонных і загінуўшых.

*— Арганізацыю пошуку і перапахавання праху савецкіх салдат ажыццяўляе спецыяльнае ўпраўленне Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў. Ці існуюць кантакты паміж вашым саюзам і гэтым упраўленнем па пошуку нямецкіх пахаванняў? Ці лічыце вы мэтазгодным перапахаванне праху нямецкіх салдат у Германіі?*

— Мы якраз па гэтаму пытанню нядаўна вялі перагаворы. Як вы правільна сказалі, задача батальёна заключаецца ў першую чаргу ў пошуках астанкаў савецкіх салдат. І, натуральна, там, дзе яны загінулі, загінулі і нямецкія салдаты. У час пошукавых работ, вядома, трапляюцца і астанкі нямецкіх салдат. Мы дагаварыліся, каб гэтыя астанкі эксгуміраваліся, рэгістраваліся і часова перазахоўваліся батальёнам і каб адпаведная інфармацыя пра гэта накіроўвалася нам. Потым будзе прымацца рашэнне аб месцы канчатковага пахавання.

Мы кіруемся прынцыпам пахавання салдат у тых краінах, у якіх яны загінулі. Гэта з'яўляецца асновай дагавораў, якія заключыла Федэратыўная Рэспубліка Германія. Мы не можам вывозіць астанкі загінуўшых на радзіму, як гэта робяць іншыя дзяржавы, напрыклад, Італія ці часткова ЗША, паколькі гэта немагчыма ўжо з пункту гледжання іх колькасці. Ва Усходняй Еўропе загінулі ці памерлі ў палоне каля 3 мільёнаў нямецкіх салдат. Акрамя таго, асобу многіх немагчыма ўстанавіць. Можна вывозіць астанкі тых салдат, асобу якіх можна ідэнтыфікаваць, а тых, каго немагчыма ідэнтыфікаваць, — хаваем тут. Мы гэтым прынцыпам не кіруемся, а хаваем загінуўшых у той краіне, у якой яны загінулі ці памерлі. Гэтым прынцыпам кіруюцца таксама многія іншыя дзяржавы. Напрыклад, англічане хаваюць загінуўшых салдат таксама ў тых краінах, дзе яны загінулі. Вываз астанкаў на радзіму, вядома, магчымы, асабліва ў тых выпадках, калі гэтага жадаюць сваякі загінуўшых. Аднак мы робім гэта ў вельмі рэдкіх, выключных выпадках.

*— У Беларусі актыўна працуе рэспубліканская асацыяцыя пошуку і ўвекавечання памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў "Пошук". Ці ёсць у нямецкага саюза кантакты з ёю?*

— У даны момант мне гэтая назва нічога не гаворыць, але зусім магчыма, што названая арганізацыя ўступіць з намі ў кантакт, як і многія арганізацыі з іншых краін. А ў прынцыпе, мы адкрыта ставімся да такіх пытанняў. Але там, дзе ёсць афіцыйны партнёр, афіцыйнае ведамства, мы супрацоўнічаем з ім.

*— Пан Гольц, у гады першай сусветнай вайны лінія расійска-германскага фронту праходзіла па тэрыторыі Беларусі. У апошні час выяўлены шэраг пахаванняў нямецкіх і рускіх салдат, у прыватнасці, у раёне Браслаўскіх азёр. Ці ўстаноўлены імёны каго-небудзь з загінуўшых? Ці магчымая арганізацыя сумеснай работы беларускіх і нямецкіх спецыялістаў па пошуку і аб'яўленню гэтых мясцін мемарыяльнымі зонамі?*

— У нашу кампетэнцыю, вядома, уваходзяць таксама пытанні, звязаныя з ваеннымі магіламі і загінуўшымі ў першай сусветнай вайне. Гэтае пытанне таксама ўрэгулявана ў пагадненні аб ваенных магілах. У Беларусі мы ўжо ўзнавілі 23 магілы перыяду першай сусветнай вайны, паколькі яны яшчэ існуюць і могуць быць рэканструяваны.

*— У гады другой сусветнай вайны загінуў кожны трэці жыхар Беларусі, і гэтым, напэўна, перш за ўсё тлумачацца негатыўныя адносіны прадстаўнікоў ваеннага пакалення да нямецкіх пахаванняў. Як вы лічыце, ці магчыма больш чым праз 50 гадоў пасля заканчэння вайны ажыццявіць прымірэнне ля магіл загінуўшых савецкіх і нямецкіх салдат?*

— Мы ведаем, што менавіта Беларусь вельмі моцна пацярпела ў вайне і панесла менавіта ў працэнтных адносінах ці не самыя вялікія страты ў Еўропе. Таму мы з самага пачатку паспрабавалі наладзіць таксама кантакт з ветэранскімі арганізацыямі. Мы правялі інфармацыйныя мерапрыемствы, каб растлумачыць мэты нашай работы. І па маіх даных, усё ж ёсць гатоўнасць прызнаць, што і немцы, якія загінулі на вайне, праз пяцьдзесят гадоў пасля заканчэння вайны не маюць права на дастойнае пахаванне.

*— На тэрыторыі Беларусі ёсць дзесяткі месцаў, асабліва ў Віцебскай вобласці, раёне міжнароднага аэрапорта Мінск-2, дзе астанкі нямецкіх і савецкіх салдат ляжаць разам. Як вы думаеце, ці магчыма іх пахаваць разам як сімвал трагедыі другой сусветнай вайны?*

— Ёсць многа могілак перыяду першай сусветнай вайны, на якіх пахаваны як рускія, так і нямецкія салдаты. Такіх могілак перыяду другой сусветнай вайны пакуль яшчэ няма. Мы паспрабавалі гэта зрабіць у некаторых мясцінах, напрыклад, у Расійскай Федэрацыі, але пакуль гэта не ўдалося. У іншых краінах ёсць сумесныя могілкі. Напрыклад, у Венгрыі амаль усе могілкі нямецка-венгерскія. Аднак ёсць добрыя намеры размяшчаць могілкі побач: напрыклад, на адным баку дарогі савецкія салдацкія могілкі, на другім — нямецкія. Так што ёсць станоўчы пачатак. Што тычыцца помнікаў, то мы ставімся да помнікаў стрымана. Наша мэта заключаецца ў тым, каб пахаваць загінуўшых на вайне, даць ім дастойнае месца апошняга прыстанішча. У нас на пярэднім плане стаіць практычная работа. Мы хочам рабіць яе для сваякоў загінуўшых, каб яны маглі наведаць магілы сваіх блізкіх. І мы, вядома, хочам паспрабаваць захаваць памяць аб іх. А пытанні сімволікі не ўваходзяць у нашу кампетэнцыю.

*— Апошнім часам на тэрыторыі Беларусі зафіксавана нямала выпадкаў ускрыцця нямецкіх пахаванняў з мэтай пошуку імянных жэтонаў. Існуе думка, што за кожны жэтон можна атрымаць пэўную суму ў дойчмарках. Наколькі гэта адпавядае сапраўднасці?*

— Мы ведаем, што асобныя магілы ўскрываюцца ў пошуках пэўных прадметаў, у прыватнасці, жэтонаў. Гэта вельмі дрэнна, таму што ў выніку гэтага немагчыма ўстанавіць асобу загінуўшага. У нашых часопісах і сярод ветэранскіх арганізацый мы рэкамендуем ні ў якім разе не купляць жэтоны. Мы таксама прынцыпова супраць таго, каб за жэтоны плаціць грошы. Я думаю, што раскопкі магіл спыняцца, калі турысты перастануць даваць грошы за жэтоны.

*— У 1991 годзе на тэрыторыі Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці было выяўлена пахаванне 11 салдат нямецкага сапёрнага аддзялення. Пасля яго выяўлення іх астанкі былі перададзены ў мясцовы ваенны камісарыят. Аб факце неадназова паведамлялася ў беларускім друку. Нягледзячы на гэта, яны так і не перапахаваны. Ці не мог бы ваш саюз дапамагчы вырашыць праблему?*

— Гэты выпадак асабіста мне невядомы. Пэўная праблема існуе з-за таго, што астанкі яшчэ не могуць быць канчаткова перапахаваны, таму што пакуль яшчэ няма адноўленых нямецкіх могілак перыяду другой сусветнай вайны. Мы дагаварыліся з Міністэрствам абароны, што ў такіх выпадках будзе ажыццяўляцца часовае перапахаванне. А канчатковае перапахаванне будзе ажыццяўляцца тады, калі будуць узноўлены нямецкія салдацкія могілкі.

*— Ці падпісана пагадненне на міждзяржаўным узроўні аб доглядзе нямецкіх ваенных пахаванняў у Беларусі? Калі так, то можа вы больш падрабязна спыніцеся на змесце гэтага дакумента?*

— Такія пагадненні заключаны і з іншымі краінамі. Яны аналагічныя. У пагадненні, падпісаным у 1996 годзе, урэгуляваны пытанні ў адносінах да загінуўшых нямецкіх і беларускіх салдат і тое, як гэтыя пытанні павінны вырашацца ў Беларусі. У сувязі з гэтым я хачу звярнуць увагу на тое, што загінуўшыя ў час вайны ў Германіі замежныя грамадзяне пахаваны згодна з законам аб пахаваннях, догляд іх магіл ажыццяўляецца за кошт урада, і, вядома, усе замежныя грамадзяне, што загінулі ў час вайны ў Германіі, ужо даўно пахаваны.

*— Магчыма, у архівах Федэратыўнай Рэспублікі Германіі маюцца дакументы, па якіх можна ўстанавіць месцы пахавання савецкіх і нямецкіх салдат, мірнага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі? Ці існуюць якія-небудзь праблемы ў правядзенні сумеснай пошукавай работы ў гэтым напрамку?*

— Германскі саюз па догляду ваенных магіл да таго, як надарылася магчымасць працаваць ва ўсходнееўрапейскіх краінах, правёў улік усіх даных, што меліся ў нямецкіх ведамствах, якія рэгіструюць пахаванні на могілках. Мы склалі спіс, у ім дваццаць тамоў, куды ўключаны ўсе савецкія грамадзяне, што загінулі ў час вайны ў Германіі, з разбіўкай па федэральных землях, раёнах і населеных пунктах. Усе існуючыя даныя мы сабралі і перадалі тады яшчэ савецкаму ўраду. Пры гэтым мы, вядома, не рабілі адрозненняў па нацыянальнай прыкмеце салдат беларускіх, украінскіх і г. д. Усе савецкія салдаты, якія загінулі ці памерлі ў Германіі, пахаваны.

Што тычыцца беларускіх грамадзян, што загінулі тут, то ў нас аб гэтым даных няма. Недалёка ад Каселя ў Арользене ёсць архіў Міжнароднага Чырвонага Крыжа, у якім такія даныя захоўваюцца.

*— Якія вы бачыце перспектывы супрацоўніцтва з беларускім бокам па догляду ваенных магіл?*

— Як я ўжо сказаў, мы заўсёды супрацоўнічаем з афіцыйнымі органамі. У Беларусі такой арганізацыяй з'яўляецца Міністэрства абароны, якому даручана гэтая работа, і мы знаходзімся толькі ў пачатку нашай работы. Я думаю, што з гэтай афіцыйнай арганізацыяй мы і будзем супрацоўнічаць у перапахаванні, у стварэнні ваенных могілак і потым в утрыманні і доглядзе іх.

Гутарыў Ігар КУЗНЯЦОЎ.

# МАЙСТАР ПЛАСТЫКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Адна з апошніх работ аўтара прынесла яму заслужаны поспех і вывела на міжнародны ўзровень — гэта помнік Францішку Скарыне ў Празе. Шлях да стварэння гэтага твора доўгі і складаны. Цікавасць да асобы Ф. Скарыны з'явілася ў скульптара ў самым пачатку яго творчага шляху. І тлумачыцца гэта не толькі непасрэдным уплывам асобы самога беларускага асветніка, яго незвычайным лёсам, але і тым, што любімы настаўнік Э. Астаф'ева народны мастак Беларусі Аляксей Глебаў вельмі многа працаваў над гэтым вобразам і стварыў неперараўзыдзены да гэтага часу твор пра Ф. Скарыну, вялікага дзеяча эпохі Адраджэння.

Усё, што можна было прачытаць, даведацца, убачыць на гэтую тэму, назапашвалася ў душы скульптара, і ішоў пошук пластычнага выяўлення тэмы. Спрабуючы і адхіляючы многія варыянты, аўтар прыйшоў да таго, які вы бачыце на здымку. Цяпер ён устаноўлены ў Празе, недалёка ад рэзідэнцыі прэзідэнта Чэхіі, на зялёнай палянцы на фоне дрэваў і арганічна зліўся з навакольнай прасторай. Цяжка пераадолець уражанне, нібы Ф. Скарына проста зноў прыехаў сюды з роднай Беларусі ў горад, дзе прайшлі шчаслівыя гады яго цяжкага жыцця. І побач з манументальнасцю фігуры, яе ідэйна-філасофскай магутнасцю ёсць у ёй чалавечая цеплыня, мяккая лірычнасць і трапяткія адносіны самога аўтара. Значнасць, веліч вобраза Ф. Скарыны, па словах мастака, захацелася падкрэсліць, змясціўшы фігуру паміж пяром і кнігай. Помнік устаноўлены на невысокім пастаменце, які нібы набліжае яго да гледача. Гэтаму ж садзейнічаюць і невялікія памеры фігуры — 2 метры 30 сантыметраў, робячы яе суразмернай з чалавекам.





Прыхільнасць, цяга да манументальнай скульптуры, як і ў іншых беларускіх скульптараў гэтага пакалення, ідзе ад народнага мастака Беларусі Андрэя Бембеля — заснавальніка школы манументальнай скульптуры, у якой вучыўся ў студэнцкія гады і Э. Астаф'еў.

Гісторыя Беларусі багатая на падзеі і людзей, дастойных таго, каб памяць аб іх засталася на стагоддзі. Для гэтага, бадай, больш за ўсё падыходзіць цвёрды матэрыял (метал і камень), іншыя маштабы і выразная кампарыцыя. У поўнай меры гэтым патрабаванням адпавядаюць створаныя Астаф'евым помнікі. Адзін з іх устаноўлены ў Крычавае Магілёўскай вобласці, на месцы, дзе было знішчана фашыстамі больш за 1 200 ваеннапалонных, мірных жыхароў, сярод іх 280 дзяцей, якіх выкарыстоўвалі ў якасці донараў. Сярод ахвяр быў і вядомы спявак Акаёмаў, першы выканаўца папулярнай песні "Арляня". Відавочцы расказвалі, што гэтую песню спявалі людзі, якіх вялі на расстрэл. Гэта і вызначыла кампазіцыйнае рашэнне помніка.





У вёсцы Застарынне Брэсцкай вобласці створаны яшчэ адзін помнік, прысвечаны партызанскаму руху і трагічным падзеям, што адбыліся ў гэтых мясцінах. За сувязь з партызанамі каля 400 жыхароў былі пакараны смерцю, а вёска спалена. Помнік у выглядзе сімвалічнай фігуры жанчыны-партызанкі ўстаноўлены на высокай гары на месцы пакарання жыхароў.

Аднак манументальнай скульптурай не абмяжоўваецца творчы патэнцыял мастака Э. Астаф'ева. Мемарыяльная дошка — гэта таксама помнік, толькі малых форм. Скульптарам створана больш дзесяці мемарыяльных дошак у гонар вядомых вучоных, паэтаў, дзеячаў культуры, вядомых военачальнікаў. Успомнім некаторыя з іх: Максім Багдановіч, Піліп Пястрак, Максім Гарэцкі, Францішак Багушэвіч, Кузьма Чорны.

У пачатку творчага шляху Э. Астаф'еў, многа працуючы ў жанры партрэта, звяртаўся да вобразаў вядомых людзей: У. Мулявін, Г. Бураўкін, героі вайны і працы, людзі яго кола. Але партрэт, на думку скульптара, скоўвае кампазіцыйнае мысленне лішняй канкрэтнасцю. І таму яму бліжэй кампазіцыйныя работы, дзе можна свабодна працаваць над формай і зместам. Каля дваццаці работ скульптара знаходзяцца ў музеях краіны. Тэматыка розная: спорт, цырк, тэма вайны, Чарнобыль, філасофскія развагі. Калі ў больш ранніх работах аўтар мае цягу да прасторавай, дынамічнай кампазіцыі, напоўненай драматычным, канфліктным пачаткам, то ў далейшым кампазіцыі як па зместу, так і па форме становяцца больш лаканічнымі і стрыманымі.

І вось новы паварот у творчасці мастака. У Музеі сучаснай беларускай скульптуры імя Андрэя Бембеля толькі што закончылася другая персанальная выстава Астаф'ева, дзе экспанавалася 20 новых работ. Ужо самі назвы: "Світанак", "Таямнічы сон", "Люстэрка", "На беражку" — гавораць пра тое, што аўтару сталі бліжэйшымі развагі аб вечным — аб каханні, прыгажосці, радасці быцця. Змянілася і трактоўка скульптуры. Формы сталі лягчэйшымі, лінія — больш плаўнай. Гэта тлумачыцца тым, што асноўнай дзеючай асобай стала жанчына. Ды і само адкрыццё выставы, дзе гучала скрыпічная музыка ў выкананні Юліі Ігонінай сярод кветкавых кампазіцый (дызайнер Міхаіл Ходар), у спалучэнні з паліраванай бронзай стварала святочны настрой.

**Клара БЕМБЕЛЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ: скульптар Эдуард АСТАФ'ЕЎ і яго работы: "Паэт Генадзь БУРАЎКІН"; "Алімпійская чэмпіёнка Нэлі КІМ", "На краі бездані"; "Адзінота".**

# АКТРЫСА

*ДА 30-годдзя ТВОРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ Галіны ДЗЯГІЛЕВАЙ*

Князёўна Рагнеда, Ларыса Геніюш, Юльяна Мэнке... Што ставіць імёны гэтыя ў адзін шэраг? Тое, што лёсы гэтых жанчын звязаны з лёсам Беларусі. І яшчэ з адным: лёсам актрысы выдатнага таленту — Галіны Дзягілевай. Яна пражывае гэтыя жыцці ў сваіх монаспектаклях у тэатры "Зьніч". Бліскуча сыграныя ролі.

Не памылюся, калі скажу: няма ў нас актрысы такой творчай адвагі. Адпрацаваць 17 гадоў у Коласаўскім тэатры ў Віцебску, набыўшы прыстойнае рэнамэ рознапланавай актрысы, кінуць гэтую наладжаную дарожку і ўсё памяняць, з'ехаць у Мінск і пад апекай Белдзяржфілармоніі стварыць небывалы ў нас тэатр монаспектакляў, ды яшчэ з кантрактнай сістэмай працы акцёраў — крок смелы і неардынарны. Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" існуе ўжо сёмы год і сведчыць пра свой высокі прафесійны ўзровень: тут іграюць толькі тыя, хто здольны выявіць сябе ў такім найскладанейшым амплуа. Спадарыня Дзягілева — і мастацкі кіраўнік, і актрыса тэатра "Зьніч".

Пра спектаклі і ролі пішуць і яшчэ напішуць тэатральныя крытыкі. Я ж хачу засяродзіць увагу на асобе самой Дзягілевай. Пабачыўшы яе Юльяну Мэнке ў "Віленскіх мроях", я быў упэўнены, што шмат у чым актрыса іграе сябе. "Amor ardens-amor sacra", "любоў палаючая — любоў святая" — так арганічна спалучыліся ў гэтым вобразе, што адным талентам і прафесіяналізмам гэта наўрад ці патлумачыш. Тут дапамагае ўласны вопыт. Не маю гонару быць асабіста знаёмым з Галінай Дзягілевай і таму дазволю прывесці меркаванні іншай асобы, больш блізкай да яе. "У Галіну Дзягілеву як актрысу і як чалавека я проста закаханая. Бывае так, што ходзіш у тэатр ці ў кіно на акцёра, паглядзець яго, паслухаць. Мне адна кабета казала, што была гатовая заплаціць грошы, каб толькі хто прывёў яе да дому, дзе жыла Ганна Герман ды ўбачыць яе не па тэлевізары, а ў жыцці. Вось прыкладна так я зачараваная Галінаю Дзягілевай. Калі ўпершыню пабачыла яе ў Рагнедзе, гэта спектакль "Выгнанне ў рай", то была моцна ўражаная ўсім: і вобразам, і глыбінёю п'есы. Тут падымаюцца магутныя пласты нашае гісторыі і так моцна гучыць тэма нашае разбуранай нацыянальнай свядомасці; тут і трагедыя зняважанай жанчыны, і яе шлях пакутны да Хрыста... І ўсё гэта па-майстэрску аб'яднана ў п'есе. Там дзейнічае мноства асобаў, у кожнай свой характар. Уяўляеш цэлыя карціны. І гэта творыць на сцэне адзін аўтар — Галіна Дзягілева. Гэта неверагодна, сапраўднае чараўніцтва. Калі я бліжэй пазнаёмілася з Галінаю, то мяне ўразіла цэласнасць яе прыгажосці. Тэза, што геній і злачынства — рэчы неспалучальныя, вельмі спрэчная. Вопыт жыцця майго даводзіць іншае: чалавек у творчасці, ці то ён малюе, ці піша, будуе, выкладае і г. д., і той самы чалавек у побыце, у жыцці штодзённым часта зусім розныя. Іншым разам не хочаш кантактаваць ці ведаць нешта пра творцу на ўзроўні побытавым. А ў творчасць чалавек уваходзіць, як у храм, пакідаючы бруд за парогам. І ягоныя творы ў нейкай ступені ёсць, можа быць, апраўданнем яго недасканаласці ў жыцці звычайным. Дык вось, у Галіны Дзягілевай такой падвоенасці няма. Яна вельмі прыгожа і годна нясе сябе і ў жыцці, і на сцэне. Гледачы ў зале, можа падсвядома, успрымаюць яе светлую стваральную энергію" — гэтаму прыватнаму меркаванню Ірыны Зварыкі можна даць веры.

Нагодаю да гэтых нататкаў сталася дата — 30-годдзе творчае дзейнасці актрысы. 19 траўня ў вялікай зале сталічнай філармоніі ладзілася вечарына, прысвечаная гэтай падзеі. Атмасфера прыгажосці, шчырасці, добрага густу і радасці панавала ў зале. Вольга Іпатава, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Аляксей Дудараў, Віктар Скарабагатаў, калегі з тэатраў, музычныя ансамблі, дарослыя і дзеці віншавалі Галіну. Прывітальныя словы да яе меў пробашч касцёла святых Сымона і Алены, ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. Сотні прыхільнікаў таленту актрысы знаходзіліся ў зале. Пасля спектакля "Віленскія мроі", у антракце перад другою часткаю імпрэзы, выцягнулася доўгая чарга жадаючых паднесці кветкі гаспадыні свята.

Гаспадыня ж была асляпляльна прыгожаю, выглядала сапраўднай каралеваю паводле сваёй постаці, прамаўляемых слоў, годнасці рухаў і натуральнасці. Вёў імпрэзу з нейкай нават шыкоўнасцю артыст Валерый Анісенка.

Калі б трэба было вылучыць жаночы сымбаль Беларусі, то, на думку многіх і на маю таксама, сярод першых прэтэндэнтак была б Галіна Дзягілева. Яна нацыянальная і духам, і словам сваім. Культура мовы — моцны бок яе індывідуальнасці. Вось што істотна: беларуская мова для яе не сродак іміджу, яна не выдаляе яе з паўсядзённага жыцця, як грым пасля спектакля. Мова для яе — святы дар, лад жыцця.

Добра ведаюць Галіну Дзягілеву беларусы Вільні, Таліна, Беласточчыны, Прагі, Піцера. Гастралявала актрыса ў Нямеччыне. Шмат ездзіць яна па гарадах і мястэчках Беларусі. Падазраю і маю ў тым рацыю, што ў творчага дзіцяці спадарыні Дзягілевай, тэатра "Зьніч", шмат праблем. Хачу спадзявацца, што яны пераадольныя.

Бог адарыў актрысу талентам і прыгажосцю. Ахвярная ж праца ўвасобіла дары гэтыя ў творы сцэнічнага мастацтва. Хай жа і надалей ззяе і жывіцца гэты талент на дабро Айчыны нашай — Беларусі.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

*ПРА НАС*

## У АМЕРЫКАНСКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

Старонкі 94—106 у першым томе амерыканскай "Энцыклапедыі сучаснага тэатра" (Таронта, 1996) прысвечаны беларускаму тэатральнаму мастацтву. З фота Платонава ў ролі Эзопа (год 1957), з апісаннем "Вечара" Дударава ў пастаноўцы купалаўцаў у 1983, з "Тутэйшымі" Купалы — Пінігіна ў годзе 1990... Энцыклапедычныя артыкулы распавядаюць пра беларускі тэатр — драматычны, музычны, лялечны, даюць звесткі пра тое, дзе рыхтуюць у Беларусі тэатральных спецыялістаў і нават пра тое, дзе пра тэатр пішуць перыядычна і час ад часу. Вялікі спіс літаратуры пра наш тэатр вянчае беларускі раздзел. Аўтар артыкулаў — Ванкарэм Нікіфаровіч.

# П'ЕР ЖАН БЕРАНЖЭ Ў КУШЛЯНАХ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Тарчэўскі. Ён казаў, што там пераважалі французскія раманы... Што ж, французскія раманы маглі, скажам, задаволіць Багушэвічавых кабет — дачку і жонку. Францішак Багушэвіч, як асоба цэласная, самабытная, шукаў у французскай літаратуры постаць, больш блізкую да сябе. І такой постаццю, думаецца, быў народны паэт Францыі, паэт-песеннік П'ер Жан Беранжэ.

Чаму так думаецца?

Беранжэ меў крытычны погляд на рэчаіснасць — акурат такі, як і Багушэвіч. Пагартайма любы зборнік Беранжэ і пераканаемся, што ў кожным яго творы гучаць вольналюбівыя, незалежніцкія матывы, такія блізкія Францішку Багушэвічу. Нават змест некаторых пераклікаецца з Багушэвічавымі. Скажам, у П'ера Беранжэ ёсць верш "Хрэсьбіны Вальтэра". Гэты твор Беранжэ вельмі сугучны з Багушэвічавай "Калыханкай". Пачытайце, параўнайце — і вы пераканаецеся, якія блізкія згаданыя творы, хоць і напісаны яны ў розных краінах, у розныя гістарычныя эпохі і з рознай нагоды. Іх найперш яднае агульначалавечы матыў: угадаць лёс народжанага чалавека, чалавечка, напрарочыць яму будучыню. Вядома, гэтае прароцтва ў кожнага аўтара адбываецца ў пэўнай нацыянальнай рэчаіснасці, адпаведнай яе менталітэту, звычаям і побыту...

У Расіі П'ер Жан Беранжэ лічыўся адным з найвыдатных паэтаў тагачаснай Еўропы. То ці мог Францішак Багушэвіч, для якога найвышэйшым ідэалам была вольнасць, лепшая доля народа, простага люду, не зацікавіцца асобай П'ера Жана Беранжэ?!

Яшчэ адным доказам, што постаць Беранжэ прываблівала Францішка Багушэвіча, з'яўляецца настольны гадзіннік. "Чаму настольны гадзіннік?" — спытаецца хтосьці. А вось чаму... Ён быў у Багушэвіча якраз з фігуркаю Беранжэ.

У Багушэвічаву пару шмат выпускалася такіх ці падобных да іх гадзіннікаў з постацямі розных іншых дзеячаў культуры, літаратуры. Але Багушэвіч сярод іншых выбраў менавіта гэты, з Беранжэ. Гэта таксама дае падставу меркаваць пра Багушэвічавы паэтычныя і творчыя арыенціры. Арыенціры гэтыя, як бачым, былі самыя высокія.

* *

Улетку 1995 года чарговым разам я наведаў Смаргоншчыну. На дарогу з сабой узяў невялікі, але вельмі мілы, у бурачковай вокладцы, томік вершаў П'ера Беранжэ на беларускай мове ў перакладзе Эдзі Агняцвет. Чаму я ўзяў Беранжэ, вершы Беранжэ — няцяжка здагадацца: я ўжо наладжваўся пісаць пра цікаўнасць Францішка Багушэвіча да постаці слыннага французскага песняра. Падумаў: "Мо ў дарозе дзе што трохі чытану, падчытаю, дый мо чытацца Беранжэ на радзіме аўтара "Дудкі беларускай" будзе неяк інакш, чым, скажам, у Мінску". Бачылася мне ў гэтай маёй задуме штосьць сімвалічнае. Я нібы хацеў наладзіць стрэчу двух славутых песняроў свету, якія ніколі ў жыцці не бачыліся і не маглі бачыцца, але дух іхніх паэзій яднаў іх незалежна ад часу і прасторы. Пра песні Беранжэ прынята гаварыць, што гэта паэтычны летапіс французскага народа. Той жа Бялінскі, развіваючы сваю думку пра паэтычную спадчыну вялікага французскага паэта, казаў: "Уся сутнасць нацыянальнага духу Францыі выказалася ў песнях Беранжэ". Гэтыя ж словы вельмі, як мне думаецца, стасуюцца і да Францішка Багушэвіча. І Багушэвіч, і Беранжэ, кожны па-свойму мужна выкрывалі свет сытых, свет ліхвяроў, свет дэспатаў. І гэта іх таксама яднала. Абодва былі палымяныя патрыёты сваіх народаў, сваіх краін. Блізкі Багушэвічу быў Беранжэ як сатырык, памфлетыст...

То гэтак я выбраўся на Смаргоншчыну з кніжачкай Беранжэ.

Там жа я і распачаў нататку, напісаў яе аснову. Там жа, на Смаргоншчыне, я паставіў апошнюю кропку. Ды ў маёй нататкі нечакана з'явіўся працяг.

Творчы тэлевізійны гурт, з якім я вандраваў па Смаргоншчыне, ужо збіраўся дадому, дахаты. Наш аўтобус пакідаў сядзібу Агінскага. Ён ужо вынырнуў з прысадаў сядзібы Агінскага і выскачыў на мінска-віленскую шашу. У гэты момант да нас рынуўся цэлы гурт моладзі з пляцакамі за плячамі. Яны ўзрадавана махалі нам рукамі, прасілі спыніцца, выслухаць іх. Наш рафік і сам па сабе меўся тут прыпыніцца: хацелі зрабіць апошнія здымкі той прысады, якая выводзіць сядзібу Агінскага на віленскі шлях. Моладзь апанавала машыну, пачалі прасіцца, каб іх падвезлі да Мінска. Гурт моладзі быў немалы — чалавек з пятнаццаць, а рафік бярэ ўсяго чалавек з восем, а нас саміх амаль гэтулькі ды яшчэ тэлевізійная апаратура. І рады б узяць, ды няма як. "Ну то хоць нашых французаў вазьміце", — запрасілася кіраўнічка экскурсантаў. "Якіх яшчэ французаў?" — зацікавіўся я. "А вунь тых", — паказала яна на купку моладзі, што заставалася сядзець на траве пры ўзбочыне. Іх таксама быў гурт ладны — чалавек з восем. І зноў мы мусілі сказаць, што рады ўзяць ну двух-трох, а не больш. Але яны не пажадалі раз'ядноўвацца. І тут я прыгадаў, успомніў, што ў мяне са мною томік вершаў П'ера Беранжэ. Мне захацелася паказаць гэты томік французскай моладзі, расказаць, што яны на зямлі не толькі Агінскага, але Францішка Багушэвіча, беларускага песняра, для якога іхні зямляк Беранжэ быў узорам паэта і грамадзяніна. Але якое было маё здзіўленне і расчараванне: студэнты — гэта былі пераважна медыкі — пра Беранжэ, які, паводле вызначэння слыннага В. Бялінскага, "ёсць цар французскай паэзіі", і чуць не чулі. Я аж анямеў: "Я, гаротны беларус, які праз ваенную разруху і школы не меў прыстойнай,

фізіку пры газавай лямпе вучыў, радыё толькі зрэдку чуў — і то неяк усё ж дайшоў да класіка іхняй літаратуры, нашуся з томікам ягоных твораў па Смаргоншчыне, а яны, тыя, хто папрыязджаў з Парыжа на вучобу ў Мінск, пры згадцы імя слыннага французскага паэта робяць вялікія здзіўленыя вочы.

Кіраўнічка выцечкі — экскурсіі (яна з нашай Гародні) праспрабавала патлумачыць, што ў Францыі гэтаму не надаюць вялікае значэнне, тым больш П'еру Беранжэ, які бічаваў капіталістычны ўклад жыцця. Тым не менш, французскія студэнты, уражаныя маёй апантанасцю, апантанасцю сталага чалавека, пацягнулі рукі да томіка вершаў Беранжэ: угледзяліся ў ягоны партрэт, у даты жыцця (1780 —1853), тужыліся, каб штокольвек згадаць пра яго, прыпомніць, але іхняя памяць ім нічога не падавала. Я ўсё ж папрасіў — на памятку пра такую нечаканую і незвычайную сустрэчу на святой зямлі Агінскага, Багушэвіча — французскіх студэнтаў пакінуць на томіку іхнята слыннага паэта на беларускай мове свае аўтографы. І яны гэта зрабілі з задавальненнем.

Вось гэтак томік Беранжэ з звычайнай перакладной кніжачкі ператварыўся ўжо ў нейкі дакумент, экспанат нашай духоўнасці. І ўсё гэта праз Францішка Багушэвіча, праз яго найперш зацікаўленасць постаццю Беранжэ. Што ж да мяне, я задаволены, што мне прыйшло ў галаву напісаць такую нататку, прывесці ў рух даўнія падзеі і факты ў дні сённяшнія. А яшчэ я задаволены тым, што хоць колькі французскіх студэнтаў адкрылі імя свайго слыннага земляка на нашай беларускай зямлі — на зямлі песеннай, дзе памятаюць не толькі сваіх песняроў, але суседніх і далёкіх краін. Да ўсяго расказанага хачу дадаць і такі факт. Калі Францішак Багушэвіч памёр, з гэтай нагоды ў красавіку 1900 года ў Вільні была выпушчана абвестка. І выдрукавана яна была ніяк не інакш, як па-французску. Звычайна такія паведамленні друкаваліся на лацыні ці папольску. А тут па-французску. Цяпер цяжка сказаць, чыя на гэта была воля, але факт такі. Хай пра гэта ведаюць і Францыя, і нашы земляки. Францішкавы імя і прозвішча па-французску пішуцца так: "FRANGOIS BOHUSZEWICZ".

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

M-r FRANÇOIS BOHUSZEWICZ

AVOCAT

vient de décéder le 15/28 Avril au domaine Kuszlany, district Oszmiana.

La femme, la fille et le fils du défunt, douloureusement atteints par cette perte, prient leurs parents, amis et connaissances de vouloir bien assister à la levée du corps du domaine Kuszlany, à l'église paroissiale de Zuprany, lundi le 17/30 Avril à 2 heures de l'après-midi.

L'office funèbre avant l'enterrement aura lieu mardi le 18 Avril / 1 Mai à 10 heures du matin, à l'église de Zuprany.

(St. du chemin de fer Libau-Romny — SOLY).

*Priez pour Lui!*

**НА ЗДЫМКАХ: Багушэвічаў гадзіннік, на якім калісь пры звіслым гусіным пяры была фігурка П'ера Беранжэ; паведамленне на французскай мове пра смерць Францішка Багушэвіча і яго пахаванне.**

**Фота А. Каляды.**

*ПРЭМ'ЕРА*



**Прэм'еру спектакля па аднайменнай аповесці Васіля Быкава "Палюбі мяне, салдацік..." паказаў Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску. Пастаноўку ажыццявіў Валерый Маслюк, сцэнаграфія і касцюмы Святланы Макаранка, музыку напісаў Уладзімір Кандрусевіч.**

**НА ЗДЫМКУ: у ролі Барэйкі-старэйшага — народны артыст Фёдар ШМАКАЎ, Барэйкі-малодшага — Міхаіл КРАСНАБАЕЎ.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# ШЧЫРАЯ «АБРАННІЦА»

Плённа працуе на Уздзеншчыне літаратурнае аб'яднанне "Нёманец". Яго сябры наладжваюць сустрэчы з чытачамі, падарожнічаюць па роднай краі, выдаюць кнігі... А кіруе "Нёманцам" намеснік рэдактара ўздзенскай раённай газеты "Чырвоная зорка" журналіст Віктар Сабалеўскі. Цікавыя і актуальныя яго матэрыялы можна прачытаць не толькі ў мясцовай газеце, але і ў рэспубліканскай прэсе. Да таго ж Віктар яшчэ добры паэт. Тры гады назад ён выдаў першы свой паэтычны зборнік "Чабаровая паляна" (Узда, 1994 год). У прадмове да яго Алесь Камароўскі адзначыў: "На першы погляд, вершы Віктара Сабалеўскага здадуцца традыцыйнымі, залішне прыземленымі. Але гэта — на першы погляд, бо, прачытаўшы зборнік, зноў хочаш вярнуцца ў родныя наднёманскія краявіды, зірнуць на тонка вымаляваныя з'явы прыроды, запомніць яго залацінкі простага радка".

Былі ў першым зборніку і паэтычныя залацінкі пра каханне. Але гэтай тэме адведзены толькі адзін з раздзелаў першага зборніка. Затое другая паэтычная кніга вершаў Віктара Сабалеўскага цалкам прысвечана каханню. Яна нядаўна выйшла з друку і мае назву "Абранніца". Добрая назва, ці не праўда? Слова "абранніца", хто некалькі значэнняў. Гэта тая, хто абрана для выканання якіх-небудзь высокіх абавязкаў. І гэта незвычайна здольны, асаблівы чалавек, дзейнасць якога не па сілах для іншых. Але абранніца — гэта і любімы чалавек, каханая, любая. Ёй і прысвечаны новы зборнік паэта з Узды Віктара Сабалеўскага. У ягоных вершах ёсць усё: і радасць сустрэчы, і смутак разлукі, шчырае прызнанне і разважанні ў адзіноце, салодкія ўспаміны і горкія расчараванні, ружовыя мары і празаічная рэчаіснасць:

**Я шчаслівы ўдвая,**
**Бо адчуў нечакана:**
**Ты ў кагосьці, як я,**
**Моцна так закахана.**

Сваё каханне ва ўсіх яго праявах аўтар раскрывае змястоўна, паслядоўна і займальна. Вершы паэта лёгка чытаюцца, запамінаюцца, просяцца на музыку. Не выпадкова ў зборнік аўтар уключыў і некалькі гатовых песень. Так і хочацца падказаць нашым кампазітарам і эстрадным спевакам, каб яны пачыталі зборнік Віктара Сабалеўскага. Бо нада ўжо шмат у апошні час гучыць на нашай беларускай эстрадзе пустых і кволых песень аднадзёнак. А цудоўныя тэксты песень Віктара Сабалеўскага ў ягонай кнізе чакаюць музычнай афарбоўкі. А поспех з папулярнасцю ім гарантаваны.

Лірычная кніга ўздзенскага аўтара вызначаецца яшчэ гумарам, бо багата ў ёй і жартоўных вершаў. Дарэчы, гэты жанр уласцівы Віктару Сабалеўскаму. Сярод добрых гумарыстычных вершаў мне найбольш запомнілася "Ода пазногцікам":

**О вы!**
**Хачу, каб сталі мы сябрамі,**
**І оду вам гатоў спяваць.**
**Я вас ніколі кіпцюрамі**
**Не буду болей называць.**

З прыемнасцю адкрые для сябе чытач і трыялеты, і санеты Сабалеўскага. Шчырасць іх кранае душу, супакойвае і абнадзейвае. Часам здаецца, што гэтыя радкі напісаны жанчынай-паэткай, якая больш балюча ўспрымае і радасці, і непрыемнасці. Гэтым самым паэт умее перадаць тонкі боль сваёй душы.

У шчырай "Абранніцы" сярод добрых вершаў ёсць і кволыя радкі, вершы раённага маштабу. Паза зборнікам маглі б застацца "Ты мая", "Хай снежынка цябе пацалуе", "Спелым яблыкам лёс ападае", "Наш дзень"...

А ў цэлым "Абранніца" Віктара Сабалеўскага спадабаецца ўсім, хто зведаў шчасце кахаць ці быць каханым.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## НАШЫ Ў ЯПОНІІ






Звычка робіць чалавека глухім і сляпым, пазбаўляе яго пачуццяў. Вельмі прыкметна гэта ў нашы дні ў краіне, што перажыла чарнобыльскую аварыю і працягвае адчуваць яе вынікі, у краіне, дзе да чорнай бяды экалогіі людзі самі дабавілі эканамічны разлад перабудовы. Інакш чым, як не стратай простага пачуцця чалавечага спачування, можна растлумачыць той факт, што на Прывакзальнай плошчы ў Мінску на вачах у прахожых цэлыя суткі праляжаў незаўважаным мёртвы чалавек? Гавораць, ён бомж, яго ўжо прывыклі бачыць на гэтым месцы.

Як ні дзіўна, убачыў мёртвага на сталічнай плошчы не мінчанін, а фотакарэспандэнт раённай газеты Валерый Бысаў, які жыве ў правінцыяльным Крычаве і прыехаў па справах у Мінск. Ён, даўні аўтар Беларускага тэлеграфнага агенцтва, і прынёс у рэдакцыю здымак, на якім адлюстраваны момант, як незадаволеныя (што іх патрывожылі) санітары нясуць мёртвага на насілках да машыны "хуткай дапамогі".

Аказваецца, вастрыня зроку прападае з гадамі не ва ўсіх. Валерый Васільевіч цудоўна бачыць і перажыванні людзей, і ўзрушэнні ў грамадстве, і змены ў любімай ім прыродзе. Вось гэтае сваё бачанне ён і прадставіў нядаўна сотняй здымкаў на фотавыставе "Жыве Беларусь", арганізаванай камітэтам "Дапамога Чарнобылю" пры ўдзеле фірмы кавы "Бразілія— Японія" ў японскіх гарадах Нагасакі, Накатсу, Сімонасекі, Кумамота і Фукуока. Японцы з цікавасцю знаёміліся з жыццём далёкай Беларусі, адлюстраваным у фатаграфіі, спачувалі нашаму гору, якое прынёс атам і аб якім яны ведаюць не па чутках.

Вярнуўшыся з Японіі, Валерый Бысаў пабываў у рэдакцыі фотаінфармацыі БелТА, падзяліўся сваімі ўражаннямі ад паездкі і пакінуў частку здымкаў з фотавыставы. Сёння мы прапаноўваем іх чытачу.

**Пётр ПАБОКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: В. БЫСАЎ са школьнікамі ў горадзе Накатсу; здымкі, прадстаўленыя на фотавыставе, не патрабуюць тлумачэнняў.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**



# ПІЛІ ЗА ЗДАРОЎЕ, ВЫПІЛІ ЗА ПАМІН ДУШЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

Самым незвычайным тлумачэннем прымянення допінгу стала "кранальная гісторыя" "выкрытага" расійскага цяжкаалета Аляксея Пятрова, дыскваліфікаванага перад Атлантай. Спартсмен настойваў на тым, што забаронены прэпарат у ежу яму падсыпала былая нявеста. Можаце смяяцца, але тлумачэнні Пятрова паказаліся федэрацыі пераканаўчымі, і спартсмен быў рэабілітаваны ("прымаў прэпараты ненаўмысна"). Але паколькі ў чужых намерах ніколі нельга быць упэўненым з абсалютнай дакладнасцю, прывядзём толькі такую статыстыку: з 1 студзеня 1996 года да пачатку Алімпіяды ў Атланце на допінгу ў свеце папаліся 62 цяжкаатлеты.

Лёгкая атлетыка ў сусветнай "допінгавай табелі" стаіць на другім месцы, так што беларускія спартсмены, якія "засвяціліся", не абвяргаюць, а пацвярджаюць існуючыя стабільныя тэндэнцыі.

Вялікі скандал таксама адбыўся ў час сеульскай Алімпіяды: амерыканскі бягун Бен Джонсан, які выйграў золата на 100-метроўцы і адначасова ўстанавіў сусветны рэкорд (9,79 секунды), быў пазбаўлены і таго, і другога. Джонсан быў дыскваліфікаваны на чатыры гады. А пасля заканчэння гэтага тэрміну папаўся зноў, таму быў адхілены ад спорту пажыццёва.

Плаванне — від спорту, якому ў даным кантэксце адводзіцца трэцяе месца. Беларуская школа, праўда, не заявіла пра сябе асобымі дасягненнямі, але сусветны вопыт паказвае: як ні парадаксальна, магчыма, з-за таго, што ў нашай краіне ў данага віду спорту няма ўсё той жа "належнай фармакалагічнай падтрымкі".

Можна яшчэ ўспомніць, што ў васьмідзесятыя гады незвычайных поспехаў дабіваліся плыўцы з ГДР (у гэтай краіне ўзровень фармакалагічнай падрыхтоўкі спартсменаў традыцыйна быў вельмі высокі). Пасля таго як усходнія землі Германіі аб'ядналіся з заходнімі, многія ўсходнегерманскія трэнеры пераехалі ў Кітай. Кітайскія плыўцы тут жа занялі ў плаванні лідзіруючыя пазіцыі, і ўсе загаварылі пра "асобую нямецкую школу". Аднак у 1993 годзе міф аказаўся развенчаным: на прымяненні допінгу былі злоўлены 24 кітайскія плыўцы. У 1994 годзе — яшчэ 31, з іх 12 — на Азіяцкіх гульнях. З таго часу Міжнародны алімпійскі камітэт і Міжнародная федэрацыя водных відаў спорту пільна назіраюць за прадстаўнікамі гэтай краіны, якой давялося ўзводзіць барацьбу з допінгам у ранг дзяржаўнай праграмы. З плыўцоў, што прадстаўляюць краіны былога Савецкага Саюза, большасць мела непрыемнасці выключна з брамантанам.

У гульневых і камандных відах спорту прымяненне допінгу выяўляецца крайне рэдка. Спецыялісты звязваюць гэта з тым, што тут нарошчванне мускульнай масы, павышэнне вынослівасці арганізма і да т. п. маюць значна меншае значэнне, чым у індывідуальных відах. У футболе, напрыклад, допінг-пробы бяруць з 1974 года пасля ўсіх матчаў на чэмпіянатах свету і Еўропы, але за гэты час папаліся толькі тры ігракі. Апошнім быў Дзіега Марадона, які прымаў у час чэмпіянату свету ў ЗША какаін. Так што станоўчы вынік тэста быў, хутчэй, вынікам вядомай звычкі футбаліста да ўжывання наркотыкаў.

Што ж тычыцца такіх дамінуючых у Беларусі відаў спорту, як біятлон і лыжы, то з імі сітуацыя асобая. Самым апошнім "лыжным скандалам" стала дыскваліфікацыя славутай расійскай лыжніцы Любові Ягаравай. У лютым 1997 года пасля перамогі на чэмпіянаце свету ў Нарвегіі ў шасціразовай алімпійскай чэмпіёнкі аказалася станоўчай проба на допінг. Нагадаем, што Ягарава перамагла на пяцікіламетровай дыстанцыі, але была пазбаўлена медаля за прымяненне ўсё таго ж брамантана. У цэлым жа "допінгавыя беды" гэты від спорту абыходзяць бокам.

Значна часцей у лыжнікаў і біятланістаў гавораць пра так званы "крывяны допінг", які практычна не паддаецца стопрацэнтнаму кантролю. Сутнасць стымуляцыі ў тым, што напярэдадні гонкі ў спартсмена бярэцца кроў, а потым — перад самым стартам — яму ж пераліваецца, рэзка мабілізуючы магчымасці арганізма. Цяпер, праўда, як нам паведамілі ў беларускім Міністэрстве спорту і турызму, распрацавана методыка вызначэння і гэтага віду допінгу. Больш таго, у сярэдзіне сёлетняга студзеня на апошнім этапе Кубка свету ў Нагана яна ўжо была апрабавана. Удзельнікі спаборніцтваў, разбуджаныя на досвітку, павінны былі здаць кроў на тэст. Вынікі ашаламілі: практычна ва ўсіх паказчык гемаглабіну перавышаў норму, што ўскосна даказвала магчымасць прымянення "крывянога допінгу"...

...Аб дыскваліфікацыі беларускіх цяжкаатлетаў стала вядома ў дзень, калі Аляксандр Лукашэнка быў абраны прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Калі беларускі лідэр сапраўды не мае намеру быць вясельным генералам і ўпэўнены, што справіцца з абедзвюма пасадамі, то яму напэўна давядзецца ўлічыць тую акалічнасць, што фармакалагічная падтрымка — гэта сёння, па аб'ектыўных прычынах, адна з неад'емных састаўляючых падрыхтоўкі спартсмена. Пасля выступлення нацыянальнай зборнай у Атланце беларускія чыноўнікі ад спорту на афіцыйным узроўні растлумачвалі, мякка кажучы, сціплыя поспехі нашай каманды ў тым ліку і недастатковымі стараннямі беларускіх фармаколагаў і біяхімікаў.

Ёсць і яшчэ адзін вельмі важны момант. Сёння ў Беларусі проста няма антыдопінгавай лабараторыі. Таму не толькі чыноўнікі ад спорту, але нават і галоўныя трэнеры нацыянальных зборных іншы раз не ведаюць, ці не занадта рызыкоўную методыку "штучнай падтрымкі" выбірае перспектыўны спартсмен і яго асабісты трэнер, якія жывуць, напрыклад, у Наваполацку, Магілёве ці Пінску. Таму "сюрпрызы" пакуль прыходзяць толькі звонку — ад міжнародных органаў.

Лабараторыя, праўда, каштуе дорага. Але спецыялісты настойліва пераконваюць у яе неабходнасці, спасылаючыся на той факт, што штрафы за "выяўленых" спартсменаў мы таксама плацім вельмі высокія. У кантэксце праблемы не менш злабадзённым бачыцца і такі аспект: без належнай даследчай базы адпаведную падтрымку сваім спартсменам мы проста не зможам забяспечыць. А значыць, не зможам забяспечыць і спартыўных перамог, таму што плёткай абуха не пераб'еш.

**Святлана КАЛІНКІНА.**
**("Белорусская деловая газета").**

## ПАРАСТКІ СЯБРОЎСТВА

Таварыства беларуска-бельгійскай дружбы наладзіла музычную вечарыну, дзе гучалі такія розныя інструменты, як фартэпіяна, цымбалы, флейта. Выконваліся творы бельгійскіх кампазітараў В'етана і Грэтры, а таксама прадстаўнікоў славутага шляхецкага роду Ельскіх — Караля і Міхала. Вядома, што Міхал у сваёй творчасці выкарыстоўваў дасягненні бельгійскага скрыпічнага мастацтва.

З Бельгіяй звязаны жыццё і творчасць аднаго з вядомейшых прадстаўнікоў беларускага замежжа Міколы Равенскага. Створаны ім беларускі хор у Лювене з вялікім поспехам выступаў у краінах Заходняй Еўропы. "Накцюрн" — мо апошні яго твор, поўны настальгіі, выканаў В. Скорабагатаў, а дзіцячы хор "Крынічка" (кіраўнік А. Гуляева) праспяваў гімн "Магутны Божа". Для гімна, трэба заўважыць, ён гучыць занадта жаласліва, што зусім не змяншае яго мастацкай вартасці.

Арганізавана вечарына была намаганнямі сакратара таварыства З. Хадакова, а вёў яе паэт Л. Дранько-Майсюк.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 810.
Падпісана да друку 9.6.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.